# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 11-12 (447-448) — 25 Сакавіка 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# 1918 — 25 Сакавіка — 1959

## 41 год пад знакам Сакавіка

«Сакавіку мы шлём вітаньне!
Зімы сярдзітае караньне
Не напалохае больш нас...»
(Хмарка — «Сакавіку»)

Сакавік!.. Колькі прадонна глыбокага сэнсу крыецца ў гэтым слове, ведае і адчувае адно Беларускі Народ, што гэтак трапна азначыў ім трэйці месяц году.

Што могуць гаварыць людзкому сэрцу, душы Беларуса, такія словы, як «март», «März» ці «March»? Яшчэ «Marzec» туды-сюды — нагадвае пра нейкае марыва, мроі, але й тут ня тое, не Сакавік!

Сакавік... сок... сакавітасьць... сакавіты — гэта спрадвечны эліксір ажыўленьня, жыцьця, зараджаньня новага...

Пры канцы месяца сонца штораз вышэй пачынае хадзіць панад нашым сьветам. Ягоныя лагодныя праменьні абуджаюць усё жывое ў прыродзе, спрыяюць руху сокаў жыцьця, што заўсёды выклікаюць парасткі новага, сьвежага, маладога, бадзёрага... Гэта і ёсьць сакавік...

Бывае, што на той абуджаны інтэнсыўны гон да жыцьця й роскві́ту хлынуць яшчэ сяды-тады сьцюдзёныя подыхі зімы, ледзяныя аковы якой стрымаюць жыцьцядайныя рухі сокаў прыроды, а навет часамі й зьнішчаць часткава тое новае, яшчэ неўмацаванае й кволае... Трывае гэта аднак ня вечна. Сокі жыцьця, што пачалі былі наймацней пераліва́цца ў канцы сакавіка, перамагаюць. Зіма ўступае, мусіць уступіць!..

☆

Людзкая грамада ў працягу вякоў перажывала й перажывае падобна прыродзе свой веснавы Сакавік і сваю зіму. Чалавецтва разьвіваецца ў двух асноўных кірунках: **наперад** — у кірунку да свабоды, любові бліжняга, братэрства паміж людзьмі й народамі, вечнага міру ды ўсебаковага разьвіцьця культуры, у кірунку **прагрэсу** або Сакавіка, і **назад** — у кірунку няволі, ненавісьці чалавека да чалавека, нясупынных войнаў ды азьвярэлага нішчэньня й занападу ўсяе культуры наагул — у кірунку **рэгрэсу** або аковаў сярдзітае зімы...

У роўніцы гэтых двух кірункаў зьмяшчаюцца ды ўзаемасутыкаюцца й пераплятаюцца гістарычныя пэрыяды людзей, народаў, усяго чалавецтва...

☆

Беларуская народная мудрасьць, ахрысьціўшы Бог ведае калі месяц пачатку вясны словам Сакавік, як-бы прадбачыла, што слова гэта некалі станецца сымбалем нацыянальнае свабоды й незалежнасьці.

Трэба-ж было здарыцца так, што якраз няйнакш, як у сакавіку, у самым пачатку рухаў сокаў прыроды, 41 год таму, у нетрах народных, пасьля больш стогадовага «зімы сярдзітае караньня», сокі ўсьведамленьня свайго собскага нацыянальнага **«я»** заварушыліся гэтак моцна, што ўжо 25-га Сакавіка 1918 году ўфармавалі вольную, незалежную й сувэрэнную Беларускую Народную Рэспубліку.

І трэба-ж было таксама здарыцца, што на новае й маладое нацыянальна-дзяржаўна-незалежніцкае ўфармаваньне адразу пачалі дзьмуць ад усходу халодна-чырвоныя завеі, аж пакуль у студзені 1919 году не пакрылі наш край ледзяным панцырам БССР... Ці-ж гэта ня сымбалічна? Сакавік і... студзень. БНР і... БССР...

☆

БНР, толькі што ўзрослая, не пасьпеўшы яшчэ апэрыцца, умацавацца, фізычна не магла ўстаяць перад сілай бальшавіцкага ўсходу. Запанавала БССР і вось ужо 40 год як зьдзекуецца над нашым народам, замаражвае, вынішчае ягонае нацыянальнае й людзкае нутро.

Нацыянальнае, бо ў БССР няма й быць ня можа нічога, навет псэўданацыянальнага, што хоць крышку адбягае ад сусьветна-захопніцкіх тэндэнцыяў бальшавізму. Людзкае, бо ў БССР чалавек, самастойная людзкая адзінка з усёй сваей людзкай годнасьцю, ня існуе. Там ёсьць машыны, хвабрыкі, прамысловасьць, калгасы, а няма там месца для чалавека. Чалавек, як такі, ня існуе. Ён — прыдатак да машыны, жывая «работніцкая сіла» на выконваньне ды перавыконваньне плянаў і заданьняў бальшавіцкае стратэгіі.

☆

Сакавік і студзень... БНР і БССР...

Сокі вясны, жыцьця і подыхі сьцюжы, заміраньня... Сымбаль і сіла... Сіла?.. Дзе сіла?..

Сіла гвалту ці сіла сымбалю жыцьця?

Раптоўная сьцюжа, што сьцінае й нішчыць часткава кволую, маладую рунь — сіла, часовая, пераходная, але сіла...

Вітальнасьць сокаў, што пад дабрадзеяньнем сонца абуджаюць зьдзесяткаваную сьцюжай рунь — сіла, вечная, няўміручая сіла!

☆

У сэрцы краю Менску, над гістарычнай Нямігай і паўзь берагоў Сьвіслачы ізноў ушчапярыліся крамлёўскія атожылкі — «улады БССР». Над краем сорак год распасьціраюцца кіпцюры бальшавіцкага цмока... Арышты, стрэлы ў патыліцу, дэпартацыі, высылкі — страшэнная, жудасная фізычная, матар'яльная сіла. Маладая незалежніцкая рунь гнецца, а ня зьнікае канчальна... Прабіваецца скрозь найменшыя праталіны... Случчакі, Койданаўцы, Барысаўцы — спантанічныя дэталі сакавітасьці народнага нутра.

Ня могуць даць рады ні паказальныя працэсы, ні кампаніі карчовак ды выкарчовак «нацдэмаў», «буржуазных нацыяналістых» «ворагаў народу»... За народную самабытнасьць, пад Бэзнэраўскім сымбалем Акту 25-га Сакавіка, гінуць сотні й тысячы, але маладая маральная рунь, хоць мясцамі й жоўкне, радзее, а не здаецца, усьцяж аднаўляецца...

І цяпер, гэтак як і сорад год таму, пад напластаваньнем сілы гвалту, варушацца карэньні сілы маральнай... Прыйдзе час, калі «загляне сонца ў закратаванае ваконца», тады й гвалт разьвеіцца, як прыкрая змора...

☆

Ізноў надыйшоў дзень 25-га Сакавіка, каляндарны дзень... Дзень вольнага бегу самастойных народных сокаў яшчэ ўперадзе, чакае свайго прыйсьця... Яшчэ стогне край пад прымусам, сказаць слова ня можа... За яго і ад імя яго ніколі ня пераставалі й ня перастаюць прыпамінаць вольнаму сьвету пра крыўду народную законныя ворганы БНР паза краем...

Беларускія браты й сёстры на выгнаньні не забываюцца пра сваю радзіму-Беларусь ды праз галовы прыгнятальнікаў рознымі, адно ім ведамымі шляхамі, стала нясуць праўду ў родныя месты й сёлы забранага краю.

Сяньня, усе тыя, каму Бог даў змогу вырвацца зь няволі, расьсяліўшыся па ўсіх краёх вольнага сьвету (а іх тысячы — яны сіла, вялікая маральная сіла!), будуць абходзіць гадавіну нараджэньня гістарычнага нацыянальнага чыну — абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Урачыстыя акадэміі й зборкі, прысьвечаныя ўшанаваньню Акту 25-га Сакавіка, будуць не адно выражэньнем нязломнае волі да самастойнага дзяржаўнага быцьця беларускага народу, а перадусім пратэстам супраць сыстэмы, што 41 год таму замардавала свабоду й дэмакрацыю, якія нараджаліся тады ў нас, супраць сыстэмы, якая гвалтам, хвальшам ды патокамі крыві павярнула ход гісторыі ды ўтрымала няволю прыпамненьнем прадстаўнікам вольнага сьвету злачынстваў, дапушчаных над нашым ды іншымі паняволенымі бальшавікамі народамі, перасьцярогай, што не ад сяньня, а ўвесь час, сыстэматычна адбываецца хвабрыкацыя кандалоў на рукі, мозг ды сэрцы вольнага сьвету...

Бальшавіцкі цмок ненажэрны. Учора праглынуў нашы народы, а цяпер напружваецца да скоку, каб праглынуць і ўвесь сьвет.

**А. Сьвіслацкі**

## Непераможнасьць народнага імкненьня

Адзначаем чарговую гадавіну Сакавіка. Саракааднагадовы пэрыяд, які нас дзеліць ад адзначанай сяньня даты, ня гледзячы на тое, што ідэалы, абвяшчаныя тады, на Беларусі яшчэ ня зьдзейсьненыя, прайшоў усё-ж пад знакам гэтых ідэалаў.

У жыцьці народаў узьнікаюць розныя праблемы, праблемы большага ці меншага значэньня, часта раптоўна й бурна, і бальшыня зь іх хутка й беспаваротна зьнікае, гэтак, як і паўсталі, не заўсёды задаволіўшы тую прычыну, якая іх нарадзіла. Але ёсьць праблемы непераходныя зь непераходнай базай, зь якой яны вырастаюць. Да такіх праблемаў адносяцца імкненьні народаў да ўдасканаленьня свайго нацыянальнага «я». Гэтыя імкненьні выходзяць за рамкі пакаленьняў, яны — неадлучны спадарожнік народу на працягу ўсяго ягонага існаваньня. Пэрфэкцыя свайго нацыянальнага «я» ў розных народаў праходзіла парознаму й на сваіх кульмінацыйных пунктах прыймала розныя формы й не заўсёды здаровыя.

Беларускі народ таксама не без свайго нацыянальнага «я». Ён таксама імкнуўся й імкнецца яго ўдасканаліць. Толькі нацыянальнае «я» беларускага народу ніколі не перарастала ў загрозу або няшчасьце для іншых. Яно абмяжоўвалася рамкамі здаровага разьвіцьця сваіх нацыянальных сілаў. Беларусы заўсёды вызначаліся павагай і пашанай, і часта навет празьмернай верай у чэснасьць і парадачнасьць сваіх суседзяў. Аднак, як паказала гісторыя, хвараблівы нацыянальны эгаізм суседзяў падступна й брутальна выкарыстоўваў гэтыя рысы нашага нацыянальнага характару для заспакаеньня сваіх зьвіхнутых амбіцыяў коштам нашых нацыянальных інтарэсаў.

Прыйшла векавая няволя. Яна сьцерла беларускі народ з карты сьвету, але, наўсуперак жаданьням панявольнікаў, ня здолела зьнішчыць яго на справе, як самабытнай нацыянальнай адзінкі. Народ застаўся, а зь ім засталося ягонае неадлучнае прыроднае імкненьне да ўдасканаленьня сябе, як асобнай грамады, злучанай шматлікімі псыхалягічнымі й культурнымі рысамі.

Прыйшла рэвалюцыя. Парваліся ланцугі стагодняе няволі й беларускі народ стаў перад магчымасьцяй і неабходнасьцяй адначыць і сфармуляваць свае дачыненьні й да самога сябе й да вонкавага сьвету. Ня ў прыклад сваім ранейшым панявольнікам, ён не пераняў іхных звычак, не пачаў марыць аб тым, каб, ідучы сьледам сваіх прыгнятальнікаў, чыніць несправядлівасьць іншым. Ён асудзіў ня толькі былое людзкое й нацыянальнае рабства, але й імкненьне «раскаваных рабоў» самім стацца рабаўласьнікамі. Беларускі народ застаўся верным самому сабе, свайму прыроднаму характару: імкненьню да найбольш шырокай дэмакратыі ўнутры свайго грамадзтва, да адпаведнай часу сацыяльнай справядлівасьці, да пашаны й ахоўваньня сьвятых прынцыпаў свабоды людзкай адзінкі, да пашаны й талеранцыі іншых народаў і іхных грамадзян і, перадусім — да сваёй нацыянальнай свабоды й незалежнасьці ў вольнай сям'і раўнапраўных народаў — пры сучасных міжнародных дачыненьнях — найбольш справядлівай палітычнай формы для ўсебаковага разьвіцьця духовых сілаў народу, задаваленьня пазытыўных бакоў ягонага нацыянальнага «я». Якраз гэтыя прынцыпы сталіся асновай Граматаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі й адзначанага сяньня Акту 25-га Сакавіка.

Пад ціскам брутальнай сілы «раскаваных» усходніх «рабоў», «чалавечы дух» якіх, як кажа Купала, «ня ўзьняўся ўвысь», гэтым прынцыпам не давялося затрыўмфаваць на нашай Бацькаўшчыне. Аднак змаганьне за іх ня спынілася.

☆

40 год бальшавікі бязьлітасна змагаюцца з «беларускім нацыяналізмам», фізычна вынішчаючы беларускую інтэлігенцыю, вядучы бязупынна прапаганду супраць «рэшткаў» і ўплываў гэтак званай «буржуазнай нацыяналістычнай ідэялёгіі».

І што-ж? Перамаглі?!

— Не, не перамаглі й не перамогуць, пакуль жыве паняволены народ-нацыя — гэтая, калі ня сьведамая, дык інстынктоўная, стыхійная крыніца народных імкненьняў да нацыянальнай самаабароны й самазахаваньня.

Гэты факт часткова прызналі й зь ім згадзіліся й бальшавікі. Гэта відаць хоць-бы з таго, што яны цяпер абмежавалі фізычнае зьнішчаньне асобаў, якія зь імі не згаджаюцца, як мэтад, які сябе не апраўдаў, і павялі палітыку нэўтралізацыі нацыянальных ідэялаў, намагаючыся ўсе лёзунгі беларускай нацыянальнай рэвалюцыі прысвоіць сабе й іхны запраўдны зьмест падмяніць сваім «сацыялістычным» эрзацам. Бальшавіцкая фікцыя БССР — твор, які ў пытаньнях дзяржаўнага маштабу ня можа самастойна прыняць найменшай пастановы, выстаўляецца й за сувэрэнную, і за незалежную беларускую дзяржаву. Апрача гэтага, у бальшавікоў хапае нахабства цьвердзіць, што ў іх і дэмакратыя найлепшая ў сьвеце, і навет пабудаваны сацыялізм! Значыць, чаго, маўляў, ламацца ў вадчыненыя дзьверы... Аднак народ ведае цану гэтай бальшавіцкай «дыялектыцы». Ён умее адрозьніваць запраўдную людзкую й нацыянальную свабоду ад бальшавіцкай.

Ужо 40 год бальшавікі выхоўваюць Беларусаў у духу гэтак званага «пралетарскага інтэрнацыяналізму» у рамках «ленінскай нацыянальнай палітыкі». Сутнасьць-жа гэтага «інтэрнацыяналізму» й праслаўтай «ленінскай нацыянальнай палітыкі» ніяк ня ў стане, а таму й ня здолела, задаволіць імкненьня народу да ўстанаўленьня запраўды справядлівых дачыненьняў паміж нацыямі. Пакуль паміж гэтак званымі «роўнымі» народамі сяньняшняга СССР ёсьць адзін «раўнейшы» й «разумнейшы»; «брат», але заўсёды толькі «старэйшы» і «большы», якому пры кажнай нагодзе іншыя павінны дзякаваць за ўсё зробленае ім і нязробленае, да таго часу гэтая «раўнапраўнасьць» будзе й далей выглядаць сьмешна навет на паперы, не гаворачы ўжо аб фактычным стане рэчаў. Гвалтоўная русыфікацыя народу з старымі культурнымі й дзяржаўнымі традыцыямі ня можа ня выклікаць пачуцьця абурэньня да тых, хто яе праводзіць, ня можа ня выклікаць нацыянальнага супраціву.

Бальшавікі й іншыя ворагі нацыянальнай незалежнасьці Беларусі прыпісваюць беларускаму вызвольнаму руху, быццам ён імкнецца «падзяліць» і «пасварыць» народы. — Якая бязглуздзіца, якое цынічнае перакручваньне сутнасьці справы! Устаўныя граматы Беларускай Народнай Рэспублікі, у якіх выражаныя асноўныя прынцыпы беларускай незалежнай дзяржавы, зьяўляюцца найлепшым дакумэнтальным запярэчаньнем гэтага хвальшу. Да іх і адсылаем сяньня тых, хто з добрай воляй хоча вызбыцца сумлеваў адносна запраўдных мэтаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

☆

Чатыры дзесяцігодзьдзі прайшлі пад знакам жорсткага змаганьня за ідэі, непераможнасьць якіх была ў гэтым змаганьні даведзеная. Тыя, што гэтыя ідэі носяць, захаваўшы ад ворага глыбока ў сэрцах, або адкрыта працуюць над іхным ажыцьцяўленьнем — могуць сьмела й з даверам глядзець у будучыню!

**Ю. Дубовік**

# Сакавік - сьвята вялікага Адраджэньня

Адзначаючы Сакавіковую гадавіну, мы ня можам забыцца аб тым, што Вялікі Сакавік быў Актам не нараджэньня, а **адраджэньня** Нацыянальнай Незалежнасьці. Апошняя акалічнасьць мае прынцыповае значаньне, тым больш, што яшчэ нядаўна з урадавай трыбуны БССР Хрушчоў з аплёмбам заявіў, што «да кастрычніцкай рэвалюцыі беларускі народ ня меў сваёй дзяржаўнасьці», а сучасны камуністычны правадыр БССР Мазураў у тон свайму босу дапоўніў, што толькі «дзякуючы Леніну і створанай ім камуністычнай партыі беларускі народ **упяршыню** ў сваёй многавяковай гісторыі **набыў дзяржаўнасьць, свабоду й незалежнасьць».** Усё сьвяткаваньне 40-годзьдзя БССР праходзіць пад такімі-ж лёзунгамі: раней — нічога, цяпер, пры савецкай уладзе — усё. Некаторыя сучасныя дзеячы культуры ў БССР зь «перакананасьцяй» прабуюць пераканаць народ, што й беларускую культуру стварылі бальшавікі. Гэтак, прыкладам, у «Полымі» (№ 4, 1958) быў зьмешчаны артыкул зь гісторыі беларускай драматургіі й тэатру пад характэрным загалоўкам, які гаворыць сам за сябе — «Народжаны Кастрычнікам». На юбілейным пленуме Саюзу кампазытараў БССР ягоны старшыня Цікоцкі сьцьвярджаў, што й беларуская музыка была «народжана кастрычнікам».

Вялікі Сакавік, наўсуперак бальшавіцкай хлусьні, высока падносіць справы й чыны гісторыі беларускага народу. Перад намі паўстаюць: Полацкае Княства — калыска беларускай дзяржаўнасьці, Залатая пара нашай дзяржаўнасьці й культуры — Вялікае Княства Літоўскае. Ці-ж можна параўняць гэтую запраўдную дзяржаўнасьць з бальшавіцкай дзяржаўнасьцяй БССР? А старадаўняя беларуская апрычоная культура й мастацтва!? Зь беларускага асяродзьдзя выйшла ці мала заснавальнікаў навет іншых нацыянальных школаў і кірункаў у літаратуры й мастацтве. Ці мала нарадзіла Беларусь сваіх драматургаў, музыкаў, цэлую пляяду выдатных мастакоў-маляроў, чые творы ўпрыгожваюць мастацкія галярэі Расеі й Польшчы?! У газэтным артыкуле немагчыма пералічыць усе знаныя прозьвішчы прадстаўнікоў беларускае культуры.

Не, беларускаму народу было й ёсьць што адраджаць, ёсьць і чым ганарыцца. Гісторыя яго культуры й дзяржаўнасьці пачыналася тады, калі яшчэ й паміну ня было таго народу, які цяпер прэтэндуе на «старэйшага брата».

Аб тым, што ідэі вялікага Нацыянальнага Адраджэньня жывуць і валодаюць розумам і сэрцам Беларусаў ня толькі на эміграцыі, сярод нас, але й арганічна ўласьцівы Беларусам на паняволенай Бацькаўшчыне, пераканальна сьветчаць розныя факты зь беларускага савецкага жыцьця. Ніколі раней яшчэ ня было, ад часу 20-ых гадоў, такога зацікаўленьня пытаньнямі беларускай гісторыі й культуры, такога імкненьня да іх вывучэньня, дасьледваньня, часьцей за ўсё напераком бальшавіцкаму кіраўніцтву. У беларускай савецкай прэсе мы чытаем аб настойлівых патрабаваньнях ахоўваць беларускую старыну, гістарычныя помнікі. Характэрна, што варта было аднаму карэспандэнту парушыць пытаньне аднаўленьня традыцыяў Купальля, як з усіх куткоў Беларусі пасыпаліся лісты ў рэдакцыі газэтаў, якія ператтваралі жаданьні й прапановы ў патрабаваньне ад улады адпаведных мерапрыемстваў. Сябры Акадэміі Навук БССР адкрываюць захаваныя старадаўныя дакуманты беларускай культуры, мастацтвазнаўцы пішуць працы аб беларускім тэатры XVI-XVII ст., вышукваюць імёны беларускіх носьбітаў культуры, здабыткі старажытнага беларускага мастацтва. Сустракаюцца факты, калі народ сам павучае мясцовае кіраўніцтва, каб не забывацца на культурныя беларускія каштоўнасьці.

У той час, калі на XXI зьезьдзе камуністычнае партыі Хрушчоў, Фурцава, Мазураў, Мухітдзінаў заклікалі да змаганьня зь перажыткамі буржуазнай ідэялёгіі, нацыяналізмам, да распрацоўкі г. зв. сучаснае тэматыкі, шматлікія беларускія культурныя дзеячы зьвяртаюцца да прыгажосьці беларускай нацыянальнай спадчыны, яўна ўхіляючыся ўсімі спосабамі ад штодзённае савецкае рэчаіснасьці. І гэта ўва ўсіх галінах беларускага мастацтва. Мінулым занятыя творчыя працаўнікі, крытыкі, дасьледнікі, вучоныя, фальклярыстыя. Колькі ня робіцца заўвагаў, дакораў і закідаў з боку кіраўніцтва — нічога не памагае: сучаснае адштурхоўвае, мінулае — вабіць. І гэта ня толькі тому, што савецкая надзённасьць абрыдла, надакучыла, справа тут істотнага парадку, якая гаворыць аб несьмяротнасьці адраджэнскай нацыянальнай ідэі, яе пранікненьні ў масы беларускага народу. Ані розум, ані сэрца Беларуса ня могуць успрыняць таго, што «народжана кастрычнікам», яны патрабуюць свайго, кроўнага, арганічна ўласьцівага беларускай натуры. Чым далей, дык болей ідэя Вялікага Сакавіка яднае беларускі народ як там на Бацькаўшчыне, гэтак і тут на чужыне. Мы тут шчасьлівыя тым, што, пазбавіўшыся абставін гвалту й тэрору, можам вольна сьвяткаваць Вялікае Сьвята, але мы верым, што прыйдзе час, калі й там радасна й свабодна будуць сьвяткаваць Вялікі Сакавік.

**Мікола Куліковіч**

## Несьмяротныя дакумэнты нашай гісторыі

### I

### ДРУГАЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА

**У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы й аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловай вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве й будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 15—17 сьнежня 1917 г., дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду й баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў.**

**1. — Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай.**

**2. — Асноўныя законы Беларускае Народнае Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага й прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.**

**3. — Да часу, пакуль зьбярэцца Ўстаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.**

**4. — Спаўняючая й адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.**

**5. — У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная свабода сумленьня, незачэпнасьць асобы й памешканьня.**

**6. — У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.**

**7. — У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры й нутро зямлі абвяшчаецца ўласнасьцю Беларускае Народнае Рэспублікі.**

**8. — У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.**

**Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсы ўсіх грамадзян і народаў Рэспублікі й захаваць правы і вольнасьць працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.**

**Усіх верных сыноў Беларускае зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.**

**Спаўняючы Камітэт Рады І-га Ўсебеларускага Зьезду.**
**Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.**

### II

### АКТ 25 САКАВІКА

### ТРЭЙЦЯЯ ЎСТАЎНАЯ ГРАМАТА БНР

**Год таму назад народы Беларусі, разам з народамі Расеі, скінулі ярмо расейскага царызму, якое найцяжэй з усіх прыдушыла Беларусь; ня пытаючыся народаў, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады й вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада БНР, ськідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое было накінутае расейскім царызмам на наш вольны й незалежны край.**

**Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго устаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.**

**На падставе гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь Трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы яго на часткі. На падставе гэтага Ўрад Беларускае Народнае Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, запрапанаваўшы ім перагледзець тую частку Берасьцейскага трактату, якая датычыць да Беларусі й падпісаць мірную ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.**

**БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве й мае лічбовую перавагу беларускі народ: а ласьне: Магілеўшчыну, Меншчыну, Віцебшчыну, Горадзеншчыну, Віленшчыну, Смаленшчыну й сумежныя часткі Чарнігаўшчыны й Пскоўшчыны, заселеных Беларусамі.**

**БНР пацьвярджае ўсе тыя правы й вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўнай Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.**

**Абвяшчаючы аб Незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсё любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы.**
**25 сакавіка 1918 г. Менск. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

# Проба сілаў

Хіба яшчэ доўгі час галоўная ўвага ў міжнароднай палітыцы будзе зьвернутая на Бэрлін і наагул на пытаньне Нямеччыны. Гэтыя пытаньні на столькі важныя, скамплікаваныя і ў сваім далейшым разьвіцьці грозныя й небясьпечныя, што яны поўнасьцяй зацьмяваюць сабой, здавалася-б, таксама вельмі важныя падзеі на Сярэднім Усходзе і ў Афрыцы.

Хрушчоў у сваіх дамаганьнях і прэтэнсіях пад адрысам Захаду часта ўжывае палітычнага блефу й шантажу, каб запалохаць Захад і нешта ад яго танным коштам вытаргаваць або адступіць, таксама безь вялікіх стратаў у тым выпадку, калі Захад выкажа дастаткова станоўчасьці й хрушчоўскіх пагрозаў не спалохаецца.

У справе Бэрліна й Нямеччыны справа прадстаўляецца, здаецца, больш сур'ёзна й небясьпечна. Не адбываецца й тут без палітычнага шантажу й традыцыйнага савецкага блефу, але, апрача гэтага, уваходзяць у ігру й вельмі важныя жыцьцёвыя інтарэсы Савецкага Саюзу з аднаго боку, а Захаду — з другога. Таму выглядае, што ня гледзячы на дробныя й мала істотныя ўступкі, як згода на скліканьне канфэрэнцыі міністраў замежных справаў або згода на прадаўжэньне канчальнага тэрміну ультыматуму ў справе Бэрліна з 27 траўня да 27 чэрвеня або й да ліпеня, Савецкі Саюз у нямецкім пытаньні зайграў va-banque і ад занятай цяпер пазыцыі так лёгка адступіць ня зможа.

Існаваньне цесна зьвязанай з Захадам Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі й вольнага Бэрліна — гэтага астраўка свабоды на камуністычным моры — зьяўлялася дагэтуль для Масквы войстрай косьцяй у горле. Заходні Бэрлін зьяўляецца для жыхарства Ўсходняй Нямеччыны і стацыянуючых у ім савецкіх жаўнераў наглядным прыкладам таго, як жывуць і думаюць людзі на Захадзе. Апрача гэтага, заходні Бэрлін зьяўляецца тэй шырокай брамай, церазь якую праходзіць бальшыня тых некалькіх соцен Немцаў, а часта між імі і ня Немцаў, якія кажнага для ўцякаюць на Захад. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, ня справа Бэрліна іграе тут вырашальную ролю, але справа ўсяе Нямеччыны. Бэрлін зьяўляецца толькі адным із прэтэкстаў, каб гэтую справу якраз сяньня паставіць на парадку дня.

Накінуць згодна із сваімі зычэньнямі разьвязаньне нямецкае праблемы якраз сяньня, а не пазьней, мае для Саветаў глыбокае абаснаваньне. Савецкі Саюз дакладна здае сабе справу, што адзінай сілай у Заходняй Эўропе, якая хутка можа быць для яго грознай і небясьпечнай, зьяўляецца Заходняя Нямеччына. За два гады будзе закончаная арганізацыя нямецкай арміі, якая ў дадатак атрымае й атамную зброю. Саветы ня маюць найменшых ілюзіяў у тым, што, у выпадку новага паўстаньня ў Усходняй Нямеччыне, гэтая армія будзе бязьдзейна прыглядацца да масакры сваіх суродзічаў на другім баку зялезнае заслоны. Таму цяперашні мамэнт уважаюць Саветы за канчатковы тэрмін, каб упарадкаваць згодна сваіх меркаваньняў нямецкае пытаньне і забясьпечыць свае інтарэсы ня толькі ў Усходняй, але і ў Заходняй Нямеччыне, выціснуўшы адтуль уплывы Захаду.

Даслоўна ўсе савецкія праекты ў нямецкім пытаньні, — а было іх ужо шмат — якраз і зводзіліся да гэтае адзінае мэты. Ці гэта будуць розныя варыянты нэўтралізацыі Нямеччыны, ці бязатамная зона, ці канфэдэрацыя дзьвюх нямецкіх дзяржаваў — усходняй і заходняй, ці, напасьледак, праект перадачы справы задзіночаньня Нямеччыны ў рукі самых-жа Немцаў — усё гэта ў канчальным выніку зводзіцца да ўключэньня Заходняй Нямеччыны ў сфэру савецкіх уплываў.

У гэтым сэньсе вельмі характэрным было нядаўнае асьветчаньне Хрушчова ў справе Бэрліна. 9 сакавіка на мітынгу ў усходнім Бэрліне ён выказаў згоду на ўдзержываньне ў заходнім Бэрліне невялікай колькасьці войскаў Задзіночаных Штатаў, Вялікабрытаніі, Францыі й Савецкага Саюзу або так-жа й нэўтральных дзяржаваў, якія мелі-б за заданьне гарантаваць статут «вольнага гораду». У дадзеным выпадку навет бязь ніякага маскаваньня Масква раскрыла свой намер пранікнуць у заходні Бэрлін.

Падчас нядаўнай візыты ў Ляйпцыгу і ўсходнім Бэрліне Хрушчоў зглажыў афіцыяльнае асьветчаньне, што Савецкі Саюз і ўсе краіны камуністычнага блёку хутка падпішуць з Усходняй Нямеччынай сэпаратны мірны дагавор у выпадку, калі Фэдэральная Нямецкая Рэспуліка адмовіцца ад падпісаньня мірнага дагавору з абедзьвюмя нямецкімі дзяржавамі. Ясна, што Заходняя Нямеччына ад такога мірнага дагавору, які-б узаконьваў і замацоўваў падзел Нямеччыны, адмовіцца, як ад гэтага адмовіліся ўжо заходнія вялікадзяржавы. Але ня менш зьяўляецца ясным, што ў гэтым выпадку Хрушчоў ня мог кідаць сваіх словаў на вецер, бо пасьля такога асьветчаньня адвароту ўжо быць ня можа. Такім чынам, пасьля падпісаньня сэпаратнага дагавору з панкаўскім урадам, аб задзіночаньні Нямеччыны мірным шляхам ня можа быць і мовы.

Наагул справа Нямеччыны ёсьць на столькі жыцьцёва важнай для будучага ажыцьцяўленьня савецкіх агрэсыўных намераў, што Масква можа перад нічым ня спыніцца ў імкненьні да разьвязаньня яе згодна сваіх плянаў і зычэньняў. Можа ня спыніцца навет перад вайной. Сяньняшняя часовая перавага Саветаў у міжкантынэнтальных атамных ракетах і іншых радох зброі можа папхнуць іх на такую рызыку.

Каб да такой небясьпечнай разьвязкі не дапусьціць і прыблізіць разьвязку, адказваючую інтарэсам вольнага сьвету, Захад павінен паказаць, што ён гатовы на ўсё: павінен аказаць палітычную непахіснасьць, узаемную салідарнасьць і навет адпаведную ваенную гатоўнасьць. А найважнейшай перадумовай перамогі заходняй канцэпцыі ёсьць тое, што Захад з пазыцыі чыста дэфэнзыўнай, абароннай павінен перайсьці да пазыцыі афэнзыўнай, наступальнай. Іншымі словамі, Захад у нямецкім пытаньні павінен выпрацаваць сваю собскую праграму й весьці актыўную палітыку дзеля ажыцьцяўленьня яе.

**Язэп Каранеўскі**

# „Нацыяналістычныя настроі" і дзейнасьць эміграцыі

«... Літаратуру, якая ўзьнялася ў Беларусі ў першыя гады савецкай улады, можна параўнаць з запраўдным **бурным патокам,** што, выйшаўшы на шырокі прастор, **уліўся ў магутнае рэчышча агульнасаюзнай, многанацыянальнай савецкай літаратуры»,** гаварыў Броўка на чацьвертым зьезьдзе пісьменьнікаў БССР.

Так — у першыя гады бальшавіцкае ўлады, у пэрыяд адноснае нацыянальнае свабоды — беларуская літаратура запраўды нагадвала што раз магутнейшы бурны паток. Яна мела перад сабою бліскучыя пэрспэктывы. Але пазьней прыйшлі гады тэрору й гэты «бурны паток» быў спачатку бальшавікамі абязводнены і ўціснуты ў «рэчышча савецкай літаратуры». Працэс гэтага гвалту Броўка апісвае вельмі скупа, агульнымі фразамі. Але ёсьць месцы ў ягоным дакладзе, якія гавораць вельмі шмат, ды над якімі варта спыніцца.

Як і трэба было чакаць, Броўка пачаў ад Купалы й Коласа. «Янка Купала й Якуб Колас, — гаварыў ён, — **пазбыўшыся некаторых ваганьняў,** прысьвячаюць свае творы станаўленьню новага жыцьця». Што-ж гэта былі за «ваганьні»? Аб гэтым Броўка маўчыць. Ён ня кажа, што сотні найлепшых твораў прыгаданых паэтаў, шмат зь якіх былі напісаныя ў дваццатыя гады, выкрэсьленыя цяпер зь літаратурнае спадчыны гэтых двух волатаў мастацкага слова. Броўка ня кажа, што пазьней арыштаваны Купала намагаўся скончыць жыцьцё самагубствам, і толькі ягоная вялізарная папулярнасьць у народзе стрымоўвала бальшавікоў зьнішчыць яго фізычна, як дзесяткі іншых беларускіх пісьменьнікаў. Гэта-ж самае датычыцца й Коласа. Броўка не параўноўвае мастацкае якасьці твораў гэтых паэтаў да й пасьля іхнага духовага заняволеньня. Такое параўнаньне было-б для бальшавікоў зьнішчальным. Броўка не сказаў таксама, пры якіх трагічных умовах і чаму так нечакана скончыў жыцьцё Купала. Але шмат з пісьменьнікаў, што слухалі даклад Броўкі, аб усім гэтым ведаюць надта добра...

Якія «ваганьні» мелі Купала й Колас, вынікае зусім ясна з далейшых словаў Броўкі, дзе ён гаварыў аб іншых пісьменьніках. Спыніўшыся на літаратурнай арганізацыі «Маладняк», Броўка заявіў: «... У час складанай, суровай клясавай барацьбы меліся асобныя людзі з **пэўнымі хістаньнямі й нацыяналістычнымі настроямі...»**

Узьнікае пытаньне: што маюць супольнае гэтак званыя «нацыяналістычныя настроі» ці, дакладней, беларускі патрыятызм — з клясавай барацьбой? Усе-ж гэтыя людзі, якіх ганьбіць Броўка, былі сынамі працоўнага народу. Гэты факт ніхто ня можа аспрэчваць. Выглядае, што змаганьне за запраўды **нацыянальную** беларускую літаратуру — для бальшавікоў страшнейшы грэх, чымся ўсё іншае.

Вось Броўкава ацэна ведамай і слаўнай літаратурнай арганізацыі «Узвышша», зь якою так жорстка расправіліся бальшавікі — цытуем: «... На нацыяналістычныя хістаньні й настроі «Узвышша» хварэла болей, чымся «Маладняк».. «Узвышша» не жадала падпарадкоўвацца партыйнаму кантролю.»

Аб «нацыяналістычных хістаньнях і настроях» у дакладзе Броўкі згадваецца яшчэ ня раз і ня два. Але, як там гаворыцца, — «камуністычная партыя дбайна вырошчвала літаратурныя кадры... Дзякуючы штодзённаму кіраўніцтву камуністычнай партыі, наша літаратура пасьпяхова перамагла нацыяналістычныя настроі асобных літаратараў...»

Вось аб гэтым «дбайным вырошчваньні» ды «пасьпяховай перамозе» й трэба сказаць некалкі словаў. Старэйшыя пісьменьнікі, у тым ліку й літаратурны палітрук Броўка, добра памятаюць хвалі чыстак сярод беларускіх пісьменьнікаў

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Чужымі створана рукамі

**ДА АРТЫКУЛАЎ МАРГУНСКАГА Ў БЕЛАСТОЦКАЙ «НІВЕ»**

**(Працяг)**

Прызнаўшы Выканаўчы камітэт «Заходняй вобласьці» за адзіныя легітымныя ворганы ўлады ў Беларусі, далей С. Маргунскі прыступае да апаганьваньня дзейнасьці беларускіх «буржуазных нацыяналістых» і скліканага імі ў сярэдзіне сьнежня 1917 году Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, які ведама, Маргунскі бярэ ў чужаслоўе. Тут ён сьцьвярджае, што беларускія «буржуазныя нацыяналістыя» імкнуліся стварыць «так званую Беларускую дэмакратычную аўтаномную рэспубліку» й устанавіць «так званы дэмакратычны лад у межах Беларусі» ў мэтах зьдзейсьненьня «сваіх эгаістычных плянаў». Яны «выступалі супраць волі беларускага народу», які поўнасьцяй, быццам-бы, падтрымоўваў устаноўленую форму савецкай улады, быў супраць «расколу з расейскім народам» і г. д. Ім, беларускім «буржуазным нацыяналістым», усё-такі пашчасьлівілася склікаць «недэмакратычным спосабам» «так званы Першы Ўсебеларускі Кангрэс». Гэты Кангрэс, як і трэба было чакаць, «выказаўся за няпрызнаньне савецкай улады» і «прапанаваў стварыць Савет Усебеларускага Кангрэсу й ягоны Выканаўчы камітэт, да якіх павінна была перайсьці ўлада ў Беларусі». Таму, улічваючы «запраўдныя імкненьні беларускага народу» й інтарэсы рэвалюцыі, Савет Народных Камісараў Заходняй вобласьці й фронту «прыняў пастанову аб роспуску Кангрэсу».

Такая агульная ацэнка беларускага нацыянальнага руху канца 1917 году, такія высновы й лёгіка Маргунскага. Жанглююючы «воляй» беларускага народу й «шкурніцкай» дзейнасьцяй беларускіх «буржуазных нацыяналістых», Маргунскі, аднак, чамусьці не палічыў патрэбным раскрыць перад чытачом той факт, што Першы Ўсебеларускі Кангрэс быў рэпрэзантаваны блізу 1900 дэлегатамі з усіх куткоў Беларусі, у точ час, калі так званыя I зьезд Саветаў работніцкіх і жаўнерскіх дэпутатаў, II зьезд дэлегатаў арміі Заходняга фронту й III зьезд сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губэрняў, якія стварылі Заходнюю вобласьць і ейны Выканаўчы камітэт з Саветам Народных Камісараў, рэпрэзантаваліся толькі 230 дэлегатамі з жаўнерскага асяродзьдзя й з асяродзьдзя прысланых расейскіх камуністых. Апошнія ўсе разам рэпрэзэнтавалі штосьці каля 17 000 сяброў бальшавіцкай партыі разам зь ейнымі прыхільнікамі ў Беларусі, у той час, калі дэлегаты Ўсебеларускага зьезду былі прадстаўнікамі многамільённага беларускага народу. Гэтую «невялікую» колькасную, якасную й рэпрэзэнтатыўную розьніцу ўсё-такі трэба ўзяць пад увагу пры аналізе падзеяў.

Аднак гісторык Маргунскі палічыў непатрэбным займацца падобнай «драбніцай». Затое ён схапіўся за вырашальны аргумант — пастанову Савету Народных Камісараў аб разгоне Кангрэсу. Запраўды «навуковы» доказ, толькі ці можа ён прыдбаць сабе прыхільнікаў, якія паверылі-б у тое, што брутальная сіла неразлучна зьвязаная з воляй народу. А бальшавікі, паслугоўваючыся кулямётамі й штыкамі, разагналі Першы Ўсебеларускі Кангрэс, арыштаваўшы пры гэтым колькі дзесяткаў ягоных актыўнейшых удзельнікаў. Праўда, ім толькі не ўдалося здушыць беларускую незалежніцкую ідэю й зьліквідаваць шлях беларускага вызвольніцкага руху.

Перайшоўшы да апісаньня падзеяў 1918 году, Маргунскі зьнячэўку сьцьвярджае, што, «улічваючы імкненьні працоўных Беларусі», Цэнтральны Камітэт партыі бальшавікоў яшчэ ў лістападзе 1917 году паставіў пытаньне аб неабходнасьці стварэньня Беларускай ССР і што ўжо 2 сьнежня гэтага-ж 1917 году Савет Народных Камісараў прыняў пастанову аб скліканьні ў канцы лютага 1918 году Ўсебеларускага зьезду Саветаў, на якім павінна было быць вырашана гэтае пытаньне. Ці заўважае Маргускі, што ён тут пярэчыць сам сабе, бо раней цьвердзіў тое, што «Заходняя вобласьць» была таксама створана з «волі беларускага народу», які не «жадаў расколу з расейскім народам»? Але ня толькі тут ідзе справа аб падобных супярэчнасьцях гісторыка Маргунскага. Тут закранутае куды важнейшае пытаньне — пытаньне, якое раскрывае савецкія мэтады хвальшаваньня гісторыі.

Справа ў тым, што ўжо ад некаторага часу ўсе беларускія савецкія гісторыкі й партыйныя прапагандыстыя пачалі адносіць савецкі задум утварэньня БССР да канца 1917 году, намагаючыся гэтым самым надаць савецкай нацыянальнай палітыцы ў Беларусі гістарычна-прынцыповы й запраўды «народны» характар. У гэтым-жа годзе была абвешчаная «Дэклярацыя правоў народаў Расеі». Але нашто, пайменна, гаварыць, што бальшавікі прыйшлі да высnаву аб неабходнасьці стварэньня БССР толькі ў канцы 1918 году? Атрымоўваецца, такім чынам, у вапошнім выпадку вялікі разрыў між бальшавіцкай «народнай» нацыянальнай палітыкай і іхнай практычнай дзейнасьцяй. Таму й знайшлася разьвязка: канец 1918 году быў перасунуты на канец 1917 году.

Ці гэта было так? Ня будзем дамагацца апублікаваньня «тых» пастановаў, але заглянем лепш у разгортваньне далейшых падзеяў, якія якраз і вызначаліся наважаным антыбеларускім характарам. Ведама, што Сталін быў народным камісарам у справах нацыянальнасьцяў, а таму яму была блізкай савецкая «нацыянальная палітыка» таго часу. Выступаючы з дакладам **пра нацыянальную палітыку бальшавікоў** на III Усерасейскім зьезьдзе Саветаў, які адбыўся ў другой палавіне студзеня 1918 году й які абвесьціў утварэньне РСФСР, Сталін чамусьці абмежаваўся толькі да зьбэшчаньня Ўкраінскай Рады, бегла закрануў пытаньне «нерасейскіх акраінаў» — Польшчы, Летувы й г. д., не адазваўшыся ні словам пра Беларусь. Яшчэ больш паказальным было інтэрв'ю Сталіна для газэты «Праўда», якое было апублікаванае 3 і 4 красавіка ды якое зьмяшчала ў сабе асновы й прынцыпы ладу РСФСР і ейнай канстытуцыі. Згодна гэтага дакумэнту, РСФСР павінна была складацца з «выдзеленых у Расеі абласьцей, характэрных сваім бытам і нацыянальным складам насельніцтва» — Украіны, Крыму, Польшчы, Закаўказьзя, Туркестану, Сярэдняга Паволжа, Кіргіскага краю, Фінляндыі, ну, ведама, і сэмой «нацыянальнай» Расеі. Як бачым, і тут Беларусь была выключаная, і выключаная навет зь ліку тых вобласьцяў, «характэрных сваім бытам і нацыянальным складам насельніцтва». А чаму? Таму, што была ўключаная ў «нацыянальную» Расею.

Больш таго, заключаючы ў Берасьці 3 сакавіка 1918 году мірную ўмову зь Немцамі, бальшавікі, ня робячы ніякай алюзіі на БССР, разьдзяляюць жывое цела Беларусі на тры часткі, перадаючы паўдзённую Беларусь па лініі Гомель—Мозыр—Пінск—Кобрынь—Берасьце Ўкраіне, заходня-паўночную з цэнтрамі Беласток, Горадня й Вільня — Летуве й прылучаючы астальную тэрыторыю Беларусі да Расеі. А той чарговы «Ўсебеларускі зьезд Саветаў» ці II зьезд Саветаў Заходняй вобласьці, які «меўся» абвесьціць БССР і які праходзіў у Смаленску ад 10 да 13 красавіка 1918 году, проста заявіў, што «беларускія пралетары не аддзяляюць сябе ад Вялікай Фэдэратыўнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі й ад працоўных і сялянаў усяе астальное Расеі». Вось табе й бальшавіцкі задум стварыць БССР яшчэ ў канцы 1917 году! Ня важна, што хтосьці некалі штосьці гаварыў, і калі яшчэ гаварыў! Важны справы й дзеяньні, а іх цяжка вырашчываць на пустым месцы, ды калі грунт зусім не надаецца для парніка.

Апісваючы нацыянальныя зрухі ў Беларусі 1918 году, Маргунскі хоча ўгаварыць чытача ў тым, што беларускі нацыянальны рух гэтага часу быў сьведамай інтрыгай Немцаў ды што абвешчаная Актам 25 Сакавіка Беларуская Народная Рэспубліка была чыста нямецкім творам. Ён піша даслоўна: «Нямецкія акупацыйныя ўлады для прыкрыцьця сваіх захопніцкіх мэтаў імкнуліся прыдаць акупацыі зьнешне «прыстойны» і навет «законны» выгляд і вырашылі выкарыстаць для гэтага беларускіх нацыяналістых. Яны прапанавалі абедзьвюм радам (Менскай і Віленскай Беларускім Радам) аб'яднацца на працягу трох дзён. Пад дыктоўку нямецкага камандаваньня быў сфарміраваны антынародны беларускі ўрад, у склад якога ўвайшлі буйныя памешчыкі, капіталістыя і духавенства на чале з А. Луцкевічам. Гэты ўрад 25 сакавіка 1918 году апублікаваў дэклярацыю аб незалежнасьці «Беларускай народнай рэспублікі».

Калі так падыходзіць да пытаньня, дык Маргунскаму трэба было-б залічыць і Першы Ўсебеларускі Кангрэс да расейскай агентуры ці да агентуры самых бальшавікоў, бо тады яшчэ Немцаў ня было ў Менску. Аднак, гаворачы сур'ёзна, перш, чым выносіць нейкі прысуд, Маргунскаму варта было-б зьвярнуцца хоць-бы да ўспомненага бальшавіцка-нямецкага Берасьцейскага трактату, якім быў вырашаны лёс Беларусі не ў карысьць беларускага народу. Варта было-б зьвярнуцца таксама да запраўднае нямецкае палітыкі што да Беларусі пасьля гэтага Берасьцейскага трактату ды прааналізаваць тыя ўмовы, у якіх была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. Што да захадаў беларускіх «буржуазных нацяналістых», робленых у той час перад Немцамі, дык тут абмяжуемся заўвагай Зьмітрака Бядулі, які прызнаваўся тады ў тым, што «Беларусы былі гатовыя прасіць прыйсьця й нэграў, абы толькі збавіцца ад бальшавікоў».

Калі былі перарваныя бальшавіцка-нямецкія перамовы ў Берасьці й нямецкая армія пачала наступ, 19 лютага 1918 году ўладу ў Менску пераняла ў свае рукі выйшаўшая з падзямельля Рада Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, якая зразу-ж і стварыла часовы ўрад — Народны Сакратарыят Беларусі. 25 лютага Менск быў заняты Немцамі, якія пасоўваліся далей на ўсход. Аапынуўшыся перад гэтай небясьпекай, бальшавікі зноў распачынаюць перамовы зь Немцамі, якія й прыводзяць да падпісаньня ўжо ведамага Берасьцейскага трактату. Таму, не чакаючы на скліканьне чарговага Ўсебеларускага ўстаноўнага збору, 9 сакавіка 1918 году Выканаўчы Камітэт Рады Кангрэсу выдае II-ую Устаўную Грамату да беларускага народу, якой, у зрэалізаваньне пастановаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, абвяшчае Беларускую Народную Рэспубліку на тэрыторыі ўсёй этнаграфічнай Беларусі. Паўстае Рада БНР, якая, адкінуўшы Берасьцейскі трактат, 25 сакавіка абвяшчае ўжо незалежнасьць Беларусі ведамай III-яй Устаўнай Граматай. Маглі, такім чынам, браць тут нейкі ўдзел Немцы, заняўшыся торгам з бальшавікамі за беларускія землі? Ды зрэшты, ні Рада БНР, ні Беларуская Народная Рэспубліка ня былі імі прызнаныя, хоць у гэтым кірунку й рабіліся Беларусамі адпаведныя захады ў Бэрліне. Што праўда, Немцы былі вымушаныя лічыцца з Радай БНР, і яны лічыліся, але гэта іншага характару пытаньне.

**(Працяг будзе)**

**П. Залужны**

# „Нацыяналістычныя настроі“ ...

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

у трыццатых гадох. Зрэшты, у залі паседжаньняў пісьменьніцкага зьезду сядзела й некалькі «рэгабілітаваных» недабіткаў гэтых чыстак — а сярод іх і калісьці выдатныя прадстаўнікі «Узвышша». Партыя так «дбайна» паставілася да квітнеючай беларускай літаратуры, што за некалькі гадоў «з бурнага патоку» засталася толькі жалю годная сажалка, якую ў 1934 годзе ўпусьцілі ў агульна-савецкае рэчышча, ці інакш кажучы — сагналі ўсіх у вадзіны Саюз Савецкіх Пісьменьнікаў. Ад таго часу ня спыняюцца нараканьні на незайздросны стан літаратуры ў БССР. Няма дзіва: літаратура бяз душы — не літаратура. Без нацыянальнай і творчай свабоды — якую, дарэчы, так бэсьціў на зьезьдзе Броўка — ня можа быць і запраўднай літаратуры.

Але чаму Броўку так шмат давялося гаварыць аб «нацыяналістычных настроях», «хістаньнях»? Ці варта было — з бальшавіцкага гледзішча — аж у такой форме й так настойліва выклікаць цені мінулага? Хіба не, каб... усё гэта было запраўды толькі цені мінулага. Гэта — нядвузначная перасьцярога сучасным пісьменьнікам. Пацьвярджае гэты факт і не адно месца ў дыскусіях аб дакладзе Броўкі: «... крытыкі й літаратуразнаўцы Беларусі зрабілі пэўны ўклад у справу **барацьбы з буржуазнымі поглядамі й уплывамі** ў галіне дасьледваньня літаратуры, супраць беспасьпяховых спробаў збэсьціць марксысцка-ленінскую эстэтыку», — гаварыў на зьезьдзе Ул. Юрэвіч. А Кісялёў яму ў тон: **«Ува ўмовах напружанай барацьбы з уплывамі варожай буржуазнай ідэялёгіі й спробамі рэвізіянізму, савецкі** пісьменьнік забавязаны непахісна стаяць на марксысцка-ленінскіх пазыцыях нашай партыі».

Вобраз будзе поўным і шмат што станецца зразумелым, калі зацытуем словы на гэтым-жа зьезьдзе В. Івашына. Вытрымка хоць доўгая, але вартая асаблівае ўвагі:

«У сваім дакладзе Пятрусь Броўка гаварыў, якую вялікую барацьбу праводзілі савецкія пісьменьнікі супраць атак міжнароднай рэакцыі й рэвізіяністых на сацыялістычны рэалізм. Але мы забываемся, што пішацца аб беларускай літаратуры за межамі нашай краіны.

«Я лічу, што пры Саюзе Пісьменьнікаў ці пры Інстытуце літаратуры мы павінны зарганізаваць рэфэраваньне крытычных працаў, кнігаў, якія выходзяць за мяжой і прысьвечаныя пытаньням беларускай літаратуры.

«Разам з міжнароднай рэакцыяй, якая нападае на сацыялістычны рэалізм, **беларускія нацыяналістыя за межамі вядуць шалёныя атакі на беларускую літаратуру і асабліва на творчасьць Янкі Купалы й Якуба Коласа. Беларускія нацыяналісты прыкладаюць усе намаганьні, каб адлучыць творчасьць Янкі Купалы й Якуба Коласа ад сацыялістычнага рэалізму».**

Як бачым, наша дзейнасьць на эміграцыі прыносіць ужо плён і то не абы які. Вынікае, што пісьменьніцкае асяродзьдзе добра паінфармаванае аб гэтай дзейнасьці, дыскутуе аб ёй міжсобку. Аб'ектыўная інфармацыя аб Купале, Коласе й іншых пісьменьніках пранікае ў масы, ня гледзячы на бальшавіцкія зялезную й дымавую заслоны. Ды справа ня тычыцца толькі пісьменьнікаў. Нездарма, у сваёй прамове на зьезьдзе пісьменьнікаў, Мазураў уважыў патрэбным і тут з такім націскам сказаць: «Без савецкай улады, **без дапамогі ўсіх** савецкіх народаў і, **перш за ўсё, вялікага расейскага народу Беларусь навет не магла-б існаваць як дзяржава,** а беларускі народ ня мог-бы, ведама, і разьлічваць на такі бурны росквіт свае эканомікі й культуры».

Калі ўсьведаміць сабе, што Мазураў выступаў не на нейкім мітынгу перад работнікамі й сялянамі, а пераконваў беларускіх пісьменьнікаў, дык словы ягоныя набываюць асаблівае значэньне. Але аб гэтым пакінем меркаваць самім чытачом.

**Ул. Немановіч.**

# Пляны ёсьць, а прадукцыі няма

Камуністычнае кіраўніцтва заўсёды прыдавала й прыдае вялізарную ўвагу прапаганьдзе. Вось і цяпер, пасьля зацьверджаньня XXI зьездам камуністычнай партыі кантрольных лічбаў разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР на 1959—65 гады, усё накіравана на растлумачэньне «гістарычных» пастановаў партыйнага зьезду. Камуністычны рэжым на прапаганду не шкадуе ні сяродкаў, ні часу.

Па ўсёй Беларусі 250 тысяч агітатараў убіваюць у галавы старым і маладым, калгасьнікам і работнікам аб «мудрых» плянах партыі на сямігодку. Удзельнікі сходаў забавязаны вітаць, захапляцца ды дзякаваць партыі за клопаты аб дабрабыце народу. Ніводзін удзельнік мітынгу не павінен выказаць сумлеву што да рэальнасьці плянаў. Усё жыхарства павінна аднадумна, навет зь вялікім захапленьнем напружыць усе сілы, каб выканаць сямігадовы плян датэрмінова, у бальшыні выпадкаў — за пяць гадоў. Узнагародай за ахвярную працу Хрушчоў абяцае прыбліжэньне да царства камунізму.

Звычайна ўсе пляны вытворчасьці прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі на сямігодку, а раней на пяцігодкі, разглядаюцца поўнасьцяй выканальнымі. Пры практычным-жа праводжаньні плянаў у жыцьцё шмат чаго ня выконваецца й пераносіцца на новыя тэрміны. Сам факт пераходу ад пяцігадовых плянаў на сямігодку сьветчыць, што пляны шостай пяцігодкі праваліліся. Каб прыкрыць гэты правал, прыдумана сямігодка. За доказамі гэтых махінацыяў далёка ня трэба хадзіць.

Згодна дырэктываў XX зьезду партыі да канца шостай пяцігодкі вытворчасьць збожжавых культураў павінна была павялічыцца ў 2,9 разоў ў параўнаньні з 1955 годам. Выканана гэтае заданьне так: у 1957 г. сярэдні ўраджай збожжа ў БССР быў 7 цэнтнараў з гэктару, а ў 1958 г. зьехаў да 6 цэнтнараў. Плянамі было прадбачана павялічыць пасяўную плошчу на 238 тысяч гэктараў, асушыўшы балоты й здабываючы 170 тысяч гэктараў дзякуючы аднаўленьню асушальнай сыстэмы. Ні тое, ні гэна ня было выканана.

Затрымаемся на некаторых плянах сямігодкі што да прадукцыі жывёлагадоўлі. Камуністычная прапаганда з асаблівым націскам падчырквала, што ў бліжэйшыя гады Савецкі Саюз абгоніць ЗША ў вытворчасьці на душу жыхарства малака, масла й мяса. А сакратар ЦК КП Беларусі Мазураў лічыць, што Беларусь ужо абагнала ЗША ў вытворчасьці малака. На колькі гэта адпавядае запраўднасьці — хай паказваюць факты.

У 1958 г. калгасы й саўгасы на 100 гэктараў зямельнае плошчы атрымалі 115 цэнтнараў малака. Каб выканаць сямігадовы плян у вытворчасьці малака, неабходна ад кажнай калгаснай каровы надаіць 2500—3000 літраў. А між тым у 1958 г. 220 калгасаў у сярэднім ад каровы атрымалі ня больш за 1000 літраў, каля 1000 калгасаў мелі надоі да 1300 літраў. Вось-жа, каб фармальна на паперы было ўсё ў парадку, камуністычнае кіраўніцтва патрабуе ўжо ў бягучым годзе павялічыць вытворчасьць малака ў паўтара разы ў параўнаньні зь мінулым годам, каб даць на 100 гэктараў 160 цэнтнараў малака. Абсурдальнасьць заданьня яўная. Ужо першы месяц сямігодкі паказвае надзвычайныя цяжкасьці ў выконваньні плянаў. Каб было каго абвінавачваць у зрыве плянаў вытворчасьці малака, ЦК ПК Беларусі 20 лютага сёлета апублікаваў пастанову «Аб нездавальняючым ходзе вытворчасьці малака ў калгасах і саўгасах рэспублікі». З гэтай пастановы відаць, што ў параўнаньні з 1958 г. валавая вытворчасьць малака за студзень зьменшылася ў Гомельскай вобласьці на 1.144 тоны, у Менской — на 1.549 тон. Панізіліся надоі ў калгасах і саўгасах Берасьцейскай і Магілёўскай вобласьцяў.

За сямігодку вытворчасьць мяса павінна павялічыцца ў рэспубліцы ў 2,1 разы. Дзеля гэтага трэба прадукаваць на 100 гэктараў зямельнай плошчы 90 цэнтнараў мяса ўбойнай вагі. Тымчасам калгасы й саўгасы рэспублікі выпрадукавалі летась на 100 гэктараў толькі 13 цэнтнараў мяса. Такім чынам, каб выканаць сямігадовы плян, калгасы й саўгасы павінны павялічыць вытворчасьць прынамся ў 6 разоў. З гэтае прычыны сёлета калгасам і саўгасам заплянавана заместа 13 цэнтнараў даць 26 цэнтнараў мяса, г. зн. у два разы больш чымся летась.

Сам Мазураў у сваім дакладзе на XXIII зьезьдзе КПБ прызнае, што дабіцца 90 цэнтнараў мяса на 100 гэктараў — «надзвычайна цяжкае заданьне». Адначасна ён-жа й навучае, як разьвязаць гэтае заданьне. Праўда, парады гэтыя Мазураў даваў і на мінулым XXII зьезьдзе КПБ, якія не далі аднак вынікаў. Перш за ўсё Мазураў патрабуе ад калгасаў і саўгасаў павялічыць у бліжэйшыя гады статак буйнай рагатай жывёлы ў два разы, утроіць колькасьць сьвіньней і ў паўтара разоў павялічыць колькасьць авечак. Апрача гэтага, дзеля падмацаваньня разьвязаньня праблемы зь мясам Мазураў патрабуе ад калгасаў і саўгасаў зьліквідаваць ялавасьць кароў і паданьне цялят ды пазапраўднаму ўзяцца за разьвіцьцё птушкагадоўлі, асабліва водных птушак, і кролікаў.

Мазураў ня мае пэўнасьці, што калгасы й саўгасы змогуць у 2 разы збольшыць статак буйнай рагатай жывёлы собскімі сіламі й сяродкамі. Таму ён прапануе, каб калгасы й саўгасы штогоду закуплялі ў калгасьнікаў, работнікаў і службоўцаў 300—400 тысяч цялят, ставілі іх на адкорм і рэалізавалі на мяса сярэдняй вагой 250—300 кг.

Усе надзеі аднак ускладаюцца на сьвінагадоўлю. Калгасам і саўгасам заплянавана да канца сямігодкі прадукаваць да 300 тысяч тонаў сьвініны ўбойнай вагою, гэта значыць збольшыць прадукцыю ў 5 разоў у параўнаньні з 1958 годам.

Нагаворана й заплянавана шмат і гэта ня першы й не апошні раз. Прапанаванае Мазуравам разводжаньне кролікаў таксама ня новае, бо іх разводзілі ўжо ў пачатку 30-ых гадоў, каб разьвязаць мясную праблему. Рэальных вынікаў ад гэтага ня было тады, ня будзе й цяпер. Варта ўважліва прааналізаваць лічбы плянавых заданьняў на сямігодку, каб ужо цяпер бачыць, што пляны вытворчасьці малака й мяса ня будуць выкананыя, бо ня маюць рэальных падставаў.

**В. Б.**

## ДА НАШЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ

**З мэтаю аблягчэньня працы пры рэдагаваньні й выдаваньні «Бацькаўшчыны» зьвяртаемся да ўсіх нашых супрацоўнікаў з наступнай ветлівай просьбай:**

**1. Прысылаць у Рэдакцыю рукапісы, памагчымасьці пісаныя на машынцы кірылічным шрыфтам з падвойнымі адступленьнямі паміж радкамі й на аднэй бачыне паперы, каб іх, ня перапісваючы, можна было здаваць у друкарню.**

**2. Некаторыя супрацоўнікі, перасылаючы перапісаны імі на машынцы матарыял у некалькіх эгзэмплярах, прысылаюць у Рэдакцыю найменш выразны, часамі зусім нячытэльны эгзэмпляр, а эгзэмпляры з выразьнейшым пісьмом пакідаюць у сябе. Ветліва просім рабіць наадварот.**

**3. Рэдакцыя зьмяшчае артыкулы й карэспандэнцыі пад запрапанаванымі аўтарамі псэўдонімамі, ініцыяламі й крыптанімамі. Але для ведама толькі Рэдакцыі, кажны манускрыпт павінен быць падпісаны запраўдным імем і прозьвішчам аўтара. Матарыялы, прысланыя без такіх аўтарскіх подпісаў, у далейшым друкавацца зусім ня будуць.**

**4. Незамоўленыя й ненадрукаваныя рукапісы Рэдакцыяй назад не зьвяртаюцца.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# ШЧАСЬЦЕ

**(Заканчэньне з 6-ай бач.)**

Праз вакно ўрывалася й зіхацела сонца. І сонца, і гэтае спатканьне зь дзяўчынай, так падобнай да Натальлі, здавалася Ігнату, мелі радаснае абяцаньне будучыні. Зь дзённым сьвятлом адыйшлі цяжкія сумлевы ночы. «Тады, у лесе, жыцьцё дало мне Натальлю, і цяпер нашыя шляхі ніколі больш не разыйдуцца», — думаў ён, і на сэрцы рабілася спакойна, лёгка. Хацелася сказаць штось прыемнае й дзяўчыне.

— Вы маеце прыгожы твар, — сказаў ён.

— О, — зайрдзелася дзяўчына.

— Хіба вы гэтага ня ведаеце?

— Калі гэта запраўды так, я цешуся, — сказала яна радасна.

Прайшоў кандуктар, абвяшчаючы Менск. На небасхіле пачалі вырысоўвацца будынкі гораду.

— Вы добра ведаеце Менск? — запытаўся Ігнат у дзяўчыны.

— Досыць добра. Я вучуся ў Менску.

— Як мне дабрацца да Шырокае вуліцы?

— Можаце даехаць Старажоўскім трамваем, нумар чатыры. Толькі сьпяшайцеся, бо сёньня, як пачнецца дэманстрацыя, трамваі перастануць хадзіць.

—Далёка прыпынак?

— Недалёка. Калі хочаце, я пакажу вам, мне гэта па дарозе.

Цягнік падыйшоў да пляцформы вакзалу.

«Вось я й у Менску», — падумаў Ігнат, і грудзі ягоныя сьціснула ні то ад шчасьця, ні то ад прадчуваньня небясьпекі.

Разам зь дзяўчынай выйшаў Ігнат з вакзалу. Калі ўжо падыходзілі да прыпынку трамваю, яна спыталася:

— Да каго вы сюды прыехалі?

— Да Натальлі, — сказаў Ігнат, усьміхаючыся.

— Яна прыгожая? — жартам зацікавілася дзяўчына.

Падыйшоў трамвай. Ігнат ускочыў на пляцоўку.

— Падобная да вас, — ужо з пляцоўкі адказаў ён.

Дзяўчына звонка засьмяялася й замахала на разьвітаньне рукою.

Трамвай рушыўся.

— Шчасьлівага спатканьня! — гукнула яна ўсьлед.

✶

На Шырокай вуліцы Ігнат спыніўся каля дому, шчыльна агароджанага зялёнымі шчыкетамі, адчыніў брамку й увайшоў на панадворак.

Перад домам — малы садок. Пасярэдзіне — каштан, пад ім зьбіты зь негабляваных дошак стол і лаўка. Аднапавярховы драўляны, пашарэлы ад часу, дом з высокім ганкам. На ганку Ігнат убачыў жанчыну й пайшоў да яе. Яна не адразу заўважыла яго, бо стаяла прысланіўшыся тварам да слупка ганку і, здавалася, плакала.

Было столькі бездапаможнасьці, сталькі безнадзейнасьці ў паставе ейнай худзенькай стуленай постаці, што раптоўны жаль штурхануў Ігнатава цела. «Мо гэта Натальля?» — падумаў ён.

Жанчына ўзьняла галаву, і Ігнат спаткаўся з вачыма добрымі, выцьвілымі. Сьляды сьлёзаў былі на здрузлых шчоках. Кончыкам хусткі з галавы сьпяшалася яна выцерці іх, калі ўбачыла Ігната.

— Скажэце, калі ласка, тут жыве Натальля Паўловіч? — запытаўся ён.

Жанчына заплакала йзноў, і яе бяскроўныя зморшчаныя вусны задрыжэлі ад гора.

— Натальля памірае, — сказала яна жаласьліва, замест адказу.

Ігнат нахіліўся наперад, бліжэй да старой, бо ў першы момант ня верыў таму, што чуў.

— Што зь ёю?

— Хто-ж яго ведае. Мо сухоты, а мо сэрца, — тлумачыла тужліва старая. — Ужо прыехала Натальля з таго холаду ды голаду зусім слабая. Думала я, дагляджу яе, дык паправіцца. А цяпер, бачу, горай ёй.

— А што доктар кажа?

— Ня хоча Натальля доктара. Плача, просіць: «Мамачка, яны мяне ў бальніцу забяруць, дык я бяз вас там адразу памру. Я сама, кажа, добра ведаю, што са мною, не дапамогуць яны ўжо мне.» Ці-ж я магу супроць сьлёзаў свайго дзіцяці йсьці? — казала ў роспачы маці. — Божа-ж мой, Божа, — перабіла яна свае ляманатаваньні, — з гора я й забылася спытацца, хто-ж вы будзеце?

— Ігнат Ясінскі.

— Дык гэта вы Ігнат? Бедненькі вы мой, бедненькі, — разгублена казала яна. — Гэта-ж як атрымала пазаўчора ваш ліст, плакала яна моцна, усё ў той дзень казала: «Каб можна было зрабіць цуд — вярнуць сваё жыцьцё.» Ува сьне палохалася, кідалася й стагнала, горш, чым заўсёды. Усю тую ноч прасядзела я каля яе. Як абуджалася, я супакойвала: «Усё добра, Талечка, усё добра, дочанька», і яна засынала.

Апавядаючы, старая ўсхліпвала й выцірала сьлёзы.

Ігнат слухаў, і боль у грудзёх узьнімаўся. Ён ведаў, што, калі ня стане Натальлі, яна пакіне ў ягоным сэрцы пустату, якую нішто ня зможа запоўніць. Як часта ўсе гэтыя гады ў тлуме жыцьця, цяжкога й небясьпечнага, мог ён спыніцца й у сваёй памяці пабачыць яе, пачуць яе. Сьмерць! Не, з гэтым ён ня мог зьмірыцца, ці пагадзіцца.

Старая працягвала далей.

— Учора супакоілася яна троху, нат мяне суцяшаць пачала: «Мама, казала, я ўсё-ж шчасьлівая, бо дома каля цябе памру. Я так баялася там у вечным холадзе застацца. І ты, мая старэнькая, хутка ўжо зь мною побач ляжаш. Вось мы й будзем назаўсёды разам».

Прыгадаўшы гэта, яна яшчэ больш расчулілася й зайшлася ў плачу.

—Цётачка, — сказаў Ігнат спагадліва, — ня ўбівайцеся так, Натальля мо яшчэ паправіцца.

— Не, не, — запярэчыла старая, — ляжыць Натальля сяньня моўчкі, быццам застыглая, усё рукамі коўдру абірае... Пасьля першай вайны я двох дзяцей у бежанстве пахавала... У гэтую вайну мой чалавек з голаду памёр... Ведаю, маё дзетачка, ведаю, як паміраюць...

Яна выцерла сьлёзы, уздыхнула і, дакрануўшыся да Ігнатавага пляча дрыжачаю рукою, сказала:

— Што-ж мы тут стаімо, пойдземце ў хату.

У цёмных сенцах было задушна. З прыадчыненых дзьвярэй кухні нясло ся гудзеньне прымусаў і галасы жанчын,

— Усе разам сяньня паўспраўляліся, — сказала старая, паказваючы галавою на кухню. — На дэманстрацыю трэба йсьці.

— Дзе я магу павесіць сваё паліто? — спытаўся Ігнат.

— Ляпей у нашым пакоі, цесна тут, тры сям'і яшчэ, акрамя нас, у доме жывуць, — адказала яна й адчыніла дзьверы ў свой пакой.

Пакой быў цьмяны, цесны. Адразу ля дзьвярэй, у куце, з аднаго боку — вешалка для вопраткі, з другога — столак, на ім умывальная міска й вядро з вадою, побач кухонная шафка, пара крэслаў. Над шафкай — вакно зь белымі марлевымі фіранкамі. Рэшту пакою займалі два жалезныя ложкі, прысунутыя да сьценак. Паміж імі — невялікі праход. На адным із ложкаў захутаная да пояса коўдрай із зачыненымі вачыма ляжала Натальля.

На момант, пакуль Ігнат заставаўся ля парогу, вешаючы сваё паліто, яму здалося, што Натальля выглядае ня так безнадзейна. «Мо памыляецца старая, панічная, як усе маткі, павялічвае небясьпеку», — з палёгкаю падумаў ён.

— Таля, — ціха паклікала маці. Яна нахілілася над Натальляй і асьцярожна паправіла раськінутыя на йлбу й падушцы зьліплыя пасмы валасоў.

Ігнат падыйшоў да ложка й тады, мо таму, што стаў зусім блізка, а мо таму, што ягоныя вочы прызвычаіліся да цемені пакою, убачыў ён, як зьмянілася Натальля. На твары зжоўклая сухая скура быццам прысохла да касьцей. Адкрытая шыя й рукі былі тонкія, як кіёчкі, і асабліва жахлівымі ў мяккім сьвятле ружовай кашулькі, што была апранутая на ёй.

Сполах ахапіў Ігната. Ён глядзеў на Натальлю й амаль ня верыў, што ведаў яе раней, што гэта тая дзяўчына, якую ён кахаў так моцна, якую чакаў праз усе гэтыя гады. Нешта падобнае на жах адчуваў ён цяпер.

— Таля, дочанька, — будзіла маці. — Ты чуеш? Ігнат тут.

Натальля зварухнулася й расчыніла вочы, але раптам зайшлася ў кашлі. Відаць было, што ёй не хапае паветра. Маці прыпадняла, прытуліла яе, трымаючы ў сваіх руках, пакуль ня сьціх кашаль.

Натальля ўбачыла Ігната й усьміхнулася, але ўсьмешка на зьнішчаным хваробай і пакутамі твары выйшла палохаючай. Страшны быў рот, зьнявечаны цынгою. Толькі вочы жылі, і Ігнату здавалася, што гэтыя прыгожыя, цяпер пацямнелыя ад болю вочы глядзяць у самую глыбіню ягонага сэрца. Ён прымусіў бадзёра ўсьміхнуцца свае занямелыя вусны.

Маці паправіла падушкі, каб Натальлі было выгадней ляжаць.

— Калі вышэй падушкі, лягчэй дыхаць, — сказала яна й дадала да Ігната: — А вы сядайце тут, бліжэй, на маім ложку. Натальлі цяжка голасна гаварыць.

— Ігнат, няўжо-ж гэта ты?.. Ня верыцца... — казала Натальля ціхім хрыплым шэптам, і штось клекатала ў ейным горле. — Калі-ж ты прыехаў?..

— Сяньня, проста зь цягніка да цябе.

Ігнат сеў, нахіліўся бліжэй да Натальлі і, вітаючыся, пацісnуў яе халодную потную руку. Цяпер і ён быў пэўным, што Натальля памірае.

— Трэба йзноў гарачай бутэльку зрабіць, ногі твае халодныя, — казала маці, папраўляючы коўдру і, дастаўшы з-пад ног бутэльку, пайшла на кухню.

У разлуцы з Натальляй няраз Ігнат скардзіўся на свой цяжкі лёс. Ягоныя ўласныя перажываньні выдаваліся яму бязьмежна балючымі. Як ён памыляўся!.. Бедная Натальля...

Пяшчотна ён узяў ейную кволую руку й прыціснуўся да яе тварам.

— Колькі-ж ты мусіла адгараваць, — сказаў ён.

Жах і жаль, якія ахапілі Ігната, калі ён убачыў Натальлю, усё яшчэ панавалі над ім. Над ім таксама панавала й безнадзейная роспач, якая прыходзіць тады, калі чалавек губляе самае дарагое, што мае на сьвеце.

— Не праймайся так, Ігнат, — прашаптала Натальля: — Мы былі шчасьлівыя... Ты памятаеш?

— Я ніколі не забываўся. Хіба-ж можна забыцца на шчасьце?

— Памятаеш, нам здавалася, — успамінала яна, — толькі стаць ды ўзьняць угару рукі...

— І мы дакранемся зораў, — дагаварыў Ігнат.

— Вось я хутка й дакрануся іх, — прашаптала Натальля, і Ігнат адчуў, задрыжэла ейная рука.

— Ня трэба, не кажы, ня думай гэтак, — запярэчыў ён і стараўся, каб ягоны голас гучэў пэўна й спакойна.

— Нішто не дапаможа... Няма чым больш дыхаць... Лёгкія на Калыме згарэлі... — Пасьля паўзы яна ўдыхнула паветра й дадала: — Я й цяпер шчасьлівая... Цябе пабачыла...

Ігнат ня мог гаварыць. Цяжкі ком падкаціўся да горла й сьціснуў яго жалезнымі абцугамі. У гэты момант Ігнат быў гатовы сваё жыцьцё аддаць, каб выратаваць Натальлю.

— Я адпачну трохі, — прашаптала Натальля, і Ігнат бачыў, што яна вельмі аслабла. Твар ейны пашарэў, пакрыўся потам. Вейкі апусьціліся. Яна зморана адкінула галаву на падушку й уся неяк выцягнулася.

— Калі ласка, пабудзь... Не пакідай мяне, — папрасіла Натальля, але не расчыніла вачэй. Здавалася яна йзноў заснула.

Вярнулася маці.

— Натальля? — яшчэ каля парогу спыталася маці, і ў ейных вочах быў сполах, было нявыказанае пытаньне.

— Сьпіць, — заспакоіў Ігнат.

Моўчкі паклала яна ў ногі гарачую бутэльку й сама села там, на краю ложка.

Так сядзелі яны ўдвох, каля Натальлі, сумныя, задуменныя... чакаючы... У дом вярнуліся з дэманстрацыі... Загаварылі... Хтось весела засьмяяўся, і гэты сьмех, як абраза, ударыў па Ігнату.

Ігнат трымаў Натальліну руку ў сваёй. Ён не заўважыў, калі спынілася запаволенае няроўнае дыханьне, толькі адчуў, як пацежалела й халаднейшай стала ейная рука. Мёртвы холад ад рукі прасачваўся ў ягонае цела, нясьцерпна давіў сэрца. Хацелася крыкнуць нема, каб у крыку гэтым выйшаў боль, што разьдзіраў грудзі. Але ён ня сьмеў... Навокал былі людзі...

Прытуліўшыся да сьпінкі ложка, спала змучаная маці. Ціха, каб не разбудзіць яе, Ігнат устаў і склаў Натальліны рукі на грудзі. Пацалаваў пахаладзелае чало...

Некаторы час стаяў нярухома... Тады падыйшоў да вакна. З вуліцы даносілася радыямузыка — музыка трыюмфу й перамогі.

25 лістапада 1958 г. **А. Саковіч**

# Ваенная машына камуністычнай экспансіі

Паводля ўстаноўленай традыцыі з сёлета 23 лютага ў СССР адзначалася 41-ая гадавіна савецкай арміі. Усе, якія знаходзяцца ў распараджэньні кіраўніцтва ЦК КПСС, сродкі прапаганды паказвалі вынікі посьпехаў і дасягненьняў у разбудове збройных сілаў краіны з мэтаю яшчэ большай мабілізацыі гаспадарчай сыстэмы дзеля далейшага ўмацаваньня савецкай арміі. Няма ніякага сумлеву, што савецкія збройныя сілы ў працэсе іхнага разьвіцьця дасягалі вялізарных посьпехаў. Створаная на моцнай базе ваеннай індустрыі, савецкая армія зьяўляецца цяпер, бясспрэчна, найбольш моцнай арміяй у сьвеце, здольнайісьці навыперадкі з найбольш магутнымі заходнімі дзяржавамі. Узброеная ўсімі сучаснымі відамі атамнай і ракетнай баёвай тэхнікі, савецкая армія сталася высокатэхнічнай збройнай сілай. Гэта характарызуецца хоць-бы такім прыкладам, як суадносіны камандных і інжынерна-тэхнічных кадраў:

«Калі ў канцы Вялікай Айчыннай вайны ўва ўсіх збройных сілах адна штатная адзінка інжынерна-тэхнічнага складу выпадала на 4,2 штатнай адзінкі каманднага складу, а ў наземных войсках навет на 5,7 адзінкі, дык цяпераka адна штатная адзінка інжынерна-тэхнічнага складу прыпадае на 1,5 штатнай адзінкі каманднага складу ў збройных сілах у цэласьці і на 3 штатныя адзінкі ў наземных войсках» (Прамова маршала Р. Маліноўскага на XXI зьезьдзе КПСС, «Праўда», 4. 2. 1959).

Цяпер збройныя сілы Савецкага Саюзу, калі верыць савецкім жаролам, «... узброеныя першараднай баёвай рэактыўнай тэхнікай, здольнай прынесьці зьнішчэньне як на палёх боек, гэтак і ў кажным пункце зямной кулі» (таксама).

Бясспрэчна, што ўсе гэтыя посьпехі дасягнутыя толькі дзякуючы заўсёднаму й максымальнаму выкарыстоўваньню амаль усіх галін народнай гаспадаркі ў ваенных мэтах. Партыйна-савецкае кіраўніцтва із збройных сілаў зрабіла актыўны сродак сваей экспансыўнай вонкавай палітыкі. У недалёкай мінуўшчыні й цяпер савецкая армія мае на сваім рахунку напад на Фінляндыю (1939-40 гг), акупацыю Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны (1939 г.), захопніцтва Балтыцкіх дзяржаваў (1940), Букавіны й Бесарабіі (1940 г.); савецкая армія прынесла на сваіх штыхох камуністычны рэжым у Баўгарыі, Румыніі, Польшчы, Чэхаславаччыне, Вугоршчыне, Альбаніі і Ўсходняй Нямеччыне; напасьледак, кіраўніцтва ЦК КПСС выкарыстала савецкія збройныя сілы дзеля крывавага здушэньня народных паўстаньняў у Ўсходнім Бэрліне (1953) і ў Вугоршчыне (1956 г.).

Але трэба адцеміць, што выкарыстаньне савецкай арміі ў гэтых мэтах дасягалася не дзякуючы сьляпому або ідэйнаму падпарадкаваньню савецкай арміі вярхоўнаму камуністычнаму кіраўніцтву, а толькі дзякуючы найстражэйшай сыстэме палітычнае кантролі й нагляду, устаноўленага ЦК КПСС над арміяй, завядзеньню дысцыпліны на прынцыпе безагляднага падпарадкаваньня, увядзеньню клясавага расслаеньня ў арміі й падбору асабліва надзейных ваенных начальнікаў.

Усё вышэй сказанае датычыцца моцных бакоў савецкай арміі. Але, разам з гэтым, існуе й адваротны бок мэдалю, які сьветчыць аб тым, што «посьпехі разбудовы збройных сілаў» не зьяўляюцца поўным посьпехам для кіраўніцтва ЦК КПСС. Аб гэтым вымоўна гаворыць тое, што ЦК КПСС да гэтага часу ў сваёй выхаваўчай палітыцы не магла адмовіцца ад стаўляньня на патрыятызм і нацыянальныя эмоцыі і зрабіць нацiск на выхаваньне арміі выключна ў камуністычным духу, хаця кіраўніцтва й намагаецца насаджваць у душу жаўнера яд партыйна-камуністычнай прапаганды.

Якія-ж пачуцьці ўзбуджае ў жаўнерскай душы ціск гэтай прапаганды? Ці ўдаецца кіраўніцтву ЦК КПСС нацыянальны патрыятызм ператварыць у са-

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

## Зь „Літаратурнай старонкі" „Нівы"

* * *

ня хочу многа ў жыцьці  
ні тых палацаў што ўзьняліся  
ні славы што гудзе  
днём і ноччу па зямлі  
хацеў-бы каб цьвілі  
у садох яблыні й чарэшні  
каб пахла рута пад вуглом  
каб разьнёс подых вешні  
па сьвеце арамат мацейкі  
на градах гарбузы жаўцелі  
хацелі жыць старэчы  
дзіцё з сонейкам гуляла  
а ці-ж на мала  
каб ліст зялёны  
зялёным вечна быў  
каласок зярняты дасьпяліў  
ўсё часу свайго дачакала

* * *

лісток лятуценьняў  
упаў на стол  
лёгкі як пух лебядзіны  
настаўляю прыпол  
не заўважыў  
адчынена акно  
вецер — скваз'няк

так бывае із шчасьцем  
капрызна  
як семнаццацігодка  
як матылёк  
не на кажную кветку садзіцца  
але добра

што шчасьце сьніцца  
адзінокі  
мае да каго высылаць  
лісток лятуценьняў

* * *

Ой! — забяры букет...  
ня хочу бачыць —  
не... не...

Пэрламутравы пялёсткі  
ападаюць...

Два дні таму  
яны расьлі і пахлі —  
зрэзала гандлярка!..

Я іх купіў,  
каб у маіх вачох каналі?  
— Ня хочу бачыць...  
Не! Не!  
Яны-ж пахлі мне  
навет уміраючы...  
— выпаўнялі сваё прызначэньне.  
Забяры!  
Ня хочу бачыць —  
не... не...  
Мяне мучыць іх прызначэньне.

* * *

прыглядзься  
сьлязе  
маленькая кропля  
ўвесь сьвет абягае  
зрадняе вякі  
нясе  
адбівае ўсе зьявы  
багатае ўлоньне яе

* * *

зямля  
зелень пялёнкай паслала  
пад поламі дрэў  
цені паснулі  
вечар зь цікавасьці  
замоўк  
і разьвіцца  
на сіняжывотае неба  
якое  
несьпяшаючыся  
зусім бяз болю  
на зялёныя пялёнкі зямлі  
родзіць месяц  
залаты месяц  
з рабым тварам  
вобмацкам паўзе  
па ўвогнутым жываце неба  
каб зорку пассаць

**Яша Бурш**

# У вабарону маіх суседзяў

## Ліст у Рэдакцыю

**Глыбокапаважаны Спадар Доктар Станіслаў Станкевіч!**

Свой цікавы артыкул «Сярод суродзічаў у Амэрыцы», што зьявіўся ў «Бацькаўшчыне», Вы распачынаеце наступна:

«Аўтару гэтых радкоў надарылася магчымасьць прабыць нядаўна ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі звыш аднаго месяца».

Бяз сумлеву гэтага часу досыць, каб пазнаёміцца з жыцьцём тутэйшых Беларусаў, але-ж яго замала, каб зразумець адну адмоўную якасьць Задзіночаных Штатаў Амэрыкі. Таму дазвольце мне, які пражыў у іх 10 год, выказаць свой пагляд наконт яе.

Гэтак у вагля дзе жыхарства Нью Ёрку Вы зазначаеце:

«Што датычыцца Нэграў, дык нэгрыцянская інтэлігенцыя вельмі сымпатычная й культурная, затое шэрая маса хіба нічым ня розьніцца ад сваіх далёкіх афрыканскіх продкаў: ходзіць у лахмоцьцях, жыве ў брудзе, многія займаюцца зладзействам і бандытызмам».

І далей Вы прыходзіце да выснаву:

«Некаторыя мне могуць закінуць, што маім цьверджаньням (раўнапраўе нацыяў у ЗША. Ю. В.) пярэчаць дачыненьні да Нэграў у паўдзёных штатах. Але справа нэгрыцянская гэта пытаньне зусім іншае. Варожыя дачыненьні да Нэграў на паўдні якраз выклікаюцца тымі адмоўнымі іх рысамі, аб якіх была мова вышэй».

Адмоўная рыса ЗША, якую Вы не зразумелі, мае свой выразны назоў — сэгрэгацыя, або дакладней — расавая дыскрымінацыя. Калі на паўдні ЗША яна мае аголены характар і, наўсуперак заканадаўству й канстытуцыі ўсяе краіны, падпіраецца адмысловымі артыкуламі («Законы Джыма Кроў») заканадаўстваў і канстытуцыяў паасобных штатаў, дык яе, хіба ў завуаляванай форме, можна адразу заўважыць і на поўначы іх. Акурат ад гэтае адмоўнае рысы белых Амэрыканцаў і паходзяць тыя адмоўныя рысы чорных Амэрыканцаў — Нэграў, якія між іншым Вы перабольшваеце. А цяпер, перш чым перайсьці да свайго беспасярэдняга жыцьцёвага азнаямленьня з гэтым балючым пытаньнем, крыху затрымаюся на ягонай гісторыі.

Спробы першых калянізатараў Амэрыкі паняволіць тубыльцаў краіны — Індыянаў ня мелі посьпеху. У гэтым няроўным змаганьні гарматаў з тамагаўкамі зьніклі сусьветнага значаньня цывілізацыі — Інкаў, Майя, Ацтэкаў, Кечуа і г. д., што мелі дзяржаўнасьць, гарады із складанай архітэктурай, пісьменасьць, каляндар, больш дакладны за сучасны Грэгарыянскі, і пакінулі ладнае сельскагаспадарчых культураў, а паміж імі нашую бадай нацыянальную страву — бульбу. У гэтым змаганьні загінулі і «апошнія з Магіканаў», а паблізу ад Купэрстаўна (горад пісьменьніка Фэнімора Купэра) на вялізнай брацкай магіле ляжыць пліта з паказальным напісам:

«Бледнатвары чалавек. Мы, у чыіх касьцей ты сташ цяпер, былі — Іракезамі».

Дарэчы гэта тыя самыя Іракезы, якім паэта Гэнры Уодсуорт Лонгфэллоў прысьвяціў сваю славутую паэму «Песьню аб Гайяваце». Аднак Індыяне рабамі ня сталіся. Іх засталося ня больш 10% ад калішняга ліку, але й цяпер яны ходзяць з узьнятай галавой, для якой характэрны арліны профіль.

Тады з Афрыкі, пераважна з узьбярэжжа Гвінэйскае затокі, распачаўся экспарт «чорнага дрэва» — Нэграў. Яны паходзілі з тых плямяў, якіх, пасьля доўгага змаганьня, падбілі ў сваім імпэрыялістычным наступе сьпярша Арабы, а потым Ангельцы з Французамі. Паказальна між іншым, што нацыянальнай эмблемай Нэграў Нігэрыі стаўся малярыйны маскіт, як найлепшы іхны хаўрусьнік у змаганьні зь белымі. І ўсё-ж Вашая, даволі зьняважлівая спасылка на прымітывізм «далёкіх афрыканскіх продкаў» сучасных Нэграў ЗША, ня мае пад сабой належнага грунту.

У старажытнай Афрыцы існавалі тры магутныя нэгрыцянскія імпэрыі — Малі, Гана і Сангай. Калі ў 1324 г. Манса Муса імпэратар Малі накіраваўся ў далёкае паломніцтва да Мэккі, кажны зь ягоных 500 воінаў трымаў у руках залаты кій, які важыў 6 фунтаў. Абоз складаўся з сотні вярблюдаў, на кажным зь якіх быў клунак з 30 фунтаў золата. Што гэтае паломніцтва ня казка, сьветчаць і архэалёгія ды паданьні ўсіх народаў, праз краіны якіх яно праходзіла і асабліва Эгіпцянаў. Не дарма гэтая частка Афрыкі, дзе паўстала ў 1956 г. рэспубліка Гана, знаная пад агульным назовам — Залаты Бераг.

Як паводзілася Нэграм-рабом у Амэрыцы, мы ведаем з часоў нашага дзяцінства. Нас пазнаёміла з гэтым маленькая кабета вялікага сэрца Гарыет Бічэр Стоў у сваёй вядомай усяму сьвету кнізе «Хаціна дзядзькі Тома». І дзівіць ня тое, што ў часткі Нэграў, пасьля вызваленьня іх Лінкольнам ад рабства, захавалася аж дагэтуль пачуцьцё ніжэйшасьці перад белымі. Захаваньню гэтага пачуцьця спрыялі Ку Клукс Клан, «Рыцары Белае Камэліі», «Рады Белых Грамадзянаў», суды Лінча, што не адыйшлі яшчэ ў нябыт, і г. д. Дзівіць вылучна тое, што частцы белых Амэрыканцаў, ня гледзячы на вялікі поступ культуры па ўсім сьвеце, уласьціва пачуцьцё вышэйшасьці перад чорным.

Ужо восем год, як маймі суседзямі зьяўляюцца Нэгры. Насупраць мае кватэры знаходзіцца нязграбная, панурая, двухпавярховая камяніца, вядомая ў Саўт Рывэры пад назовам — Афрыканскі Дом. Уся пікантнасьць адзначанага назову палягае ў тым, што продкі тых, хто насяляе гэты дом апынуліся ў Амэрыцы больш чым 300 год таму, а тыя, хто лічыць іх за Афрыканаў, дасталіся да яе ў пачатку 20-га стагодзьдзя. Дарэчы тая-ж пікантнасьць пашыраецца і на прадстаўнікоў чырвонае расы — Індыянаў. У Амэрыцы яны знаныя з эпохі мэзаліта (10-15 тыс. год таму), аднак годнасьць грамадзянаў ЗША атрымалі толькі ў 1924 г.

Мне невядома, колькі сем'яў і самотных насяляе «Афрыканскі Дом», але затое добра ведаю, што на плошчы мае кватэры, якую займаюць тры асобы, жыло-б ня менш за 10-15 Нэграў. Іх ня пушчаюць нікуды на кватэру, ім перашкаджаюць купляць або будаваць дамы там, дзе жывуць белыя. Таму «Афрыканскі Дом» ёсьць нішто іншае, як — гэтта — ягоны белы гаспадар ня лічыць за патрэбнае яго рэмантаваць — усё роўна Нэгры заплацяць яму самую вялікую рэнту за кут, абы толькі не апынуцца на вуліцы. Усё-ж у 1952 г. белыя дамагаліся, каб і адсюль Нэграў выдаліць, але мэр Саўт Рывэру адмовіў у гэтым, зазначыўшы, акрамя спасылкі на канстытуцыі краіны і штату Нью Джэрзі, што 16 насельнікаў г. зв. «Афрыканскага Дому» змагаюцца на фронце ў Карэі, як жаўнеры ЗША, і два зь іх загінулі там за агульначалавецкую справу. А наагул бальшыня мужчынаў з гэтага дому зьяўляюцца ветэранамі Першае і Другое сусьветных войнаў.

Мае суседзі прачынаюцца ўраньні а 5-6 гадзіне і накіроўваюцца да самае цяжкое і бруднае працы, што толькі ёсьць у вакалічнасьці — лягчэйшыя ды чыстыя не для іх. Але й на гэтую працу іх апошнімі прымаюць і першымі выдаляюць. Характэрна, што паводля перапісу 1937 г. (эканамічны крызіс) індэкс беспрацоўя паміж белых складаў 18,1%, а паміж чорных — 38,9%. А ў дадатак, калі, напрыклад, у 1950 г. палова белых у ЗША зарабіла за год у сярэднім 2481 дал., дык палова чорных — 1295 дал.

Мае суседкі ідуць на працу, якую лічуць для сябе зацяжкай ня толькі белая кабета, але й белы мужчына. І пасьля гэтага зразумела, калі, напрыклад, у 1945 г. сярэдняя працяглась ьць жыцьця белае кабеты ў ЗША дасятала 69,5 год, дык чорнае кабеты — 59,6 год. Дзеці маіх суседзяў падзяляюць лёс сваіх бацькоў. У мяне няма адпаведных лічбаў, якія датычаць нашага штату Нью Джэрзі, але, калі, напрыклад, у 1951 г. у штаце Місісіпі, дзе найбольшая колькасьць Нэграў (45,3%), выдаткована ў год на белага школьніка 117 дал., дык на чорнага — 35 дал. Дарэчы, пададзеныя ў гэтым абзацы красамоўныя лічбы, узятыя мной з найбольш пашыраных у ЗША даведнікаў: „The World Almanac", „Information Please Almanac" і „Dr. George Gallup's Pocket Almanac".

Мяне таму ня зьдзіўляе, калі часам нехта з маіх суседзяў, зьвяртаючыся з працы амаль уночы і прымусіўшы сябе з дапамогай віскі паабедаць, потым не распранаючыся кладзецца ў ложак і адразу-ж засынае. Разам з тым мне ніколі не даводзілася бачыць сваіх суседзяў у лахманох, кажны зь іх мае 2-3 добрых гарнітуры. А можа найбольш паказальна тое, што амэрыканскія рэстаратары аддаюць перавагу чорным афіцыянтам, як больш акуратным, ветлівым, кемлівым і чэсным, чым белыя. І ўсё-ж ні адзін чорны або наагул «каляровы», не адважыцца завітаць у гэты рэстаран, як звычайны наведвальнік.

(Заканьчэньне на 7-й бач.)

# Ваенная машына камуністычнай экспансіі

(Заканчэньне з 5-й бач.)

вецкі, прымусіць воіна быць сьляпым выканальнікам ягонай волі? Адказ можа быць толькі адмоўны.

Гэта відаць з пастановы кастрычніцкага пленуму ЦК КПСС (1957 г.) «Аб палепшаньні партыйна-палітычнай работы ў савецкай арміі й флёце», аб гэтым сьветчаць і сыстэматычна зьмяшчаныя ў ваеннай і агульнай прэсе мабілізуючыя артыкулы, якія патрабуюць палепшаньня ідэялягічнай работы ў арміі й крытыкуюць ейныя недахопы. Ці-ж можа гаварыць аб надзейнасьці арміі той факт, што супраціў кіраўніцтву ЦК КПСС робяць ня толькі масы жаўнераў і ахвіцэраў, але й выдатныя ды вельмі аўтарытэтныя ў жаўнерскіх масах ваенныя начальнікі?

«ЦК КПСС перасек рэвізіяністычную лінію былага міністра абароны Жукава, накіраваную на ліквідацыю кіраўніцтва й кантролі над арміяй і флётам з боку партыі» («Правда Украіны», 18. 1. 1959).

Тым ня меней, камуністычнае кіраўніцтва прадаўжае накіроўваць дзейнасьць і абучэньне сваіх збройных сілаў у мэтах экспансыўнай палітыкі. Звальваючы віну за праводжаньне сваёй агрэсыўнай палітыкі на краіны вольнага сьвету, ЦК КПСС асьмельваецца цьвердзіць, што, калі заходнія дзяржавы навяжуць новую вайну,

«. . . то ім будзе нанесены зьнішчальны ўдар з выкарыстаньнем усіх сучасных магутных ваенных сяродкаў. Няхай не забываюць аб гэтым урады Ангельшчыны й Заходняй Нямеччыны, бо для нанясеньня такога ўдару па гэтых краінах не патрэбна лішня шмат падобных сяродкаў. Не застануцца непакаранымі й Задзіночаныя Штаты Амэрыкі» (прамова маршала В. Чуйкова на XX зьезьдзе КП Украіны, «Правда Украіны», 18. 1. 1959).

Выкарыстаньня збройных сілаў у агрэсыўных мэтах ня могуць запярэчыць і паведамленьні аб «скарачэньні» колькаснага складу арміі. Як ведама, на працягу апошніх год савецкая прапаганда неаднаразова паведамляла аб гэтых «міралюбных» мерапрыемствах: 13. 8. 1955 г. аб скарачэньні да 15 сьнежня таго-ж 1955 г. колькасьці збройных сілаў на 640 000 чалавек; 15. 4. 1956 г, аб пастанове скараціць да 1 траўня 1957 г. агульную колькасьць збройных сілаў яшчэ на 1 200 000; 7. 1. 1958 г. аб намеры скараціць збройныя сілы на 300 000 чалавек. Калі, часткава, гэта й мела месца, дык такое мерапрыемства зьявілася нічым іншым, як перафармаваньнем арміі згодна з патрэбамі атамнай вайны, калі пэрсанал із складу войскаў скарачваецца ў ваенную індустрыю. Дадатковы мільён чалавек у ваеннай прамысловасьці шмат больш небясьпечны, чымся шматколькасныя часьці савецкай арміі, што нясуць ахову складаў. Але ня гледзячы на ўсе гэтыя скарачэньні савецкая армія й сяньня зьяўляецца найбольшай у сьвеце. Паводля сьціплых падлікаў, у ейных радох цяпер праходзяць актыўную службу каля 4 мільёнаў чалавек. Амаль 10% агульнага складу збройных сілаў — да 400 000 чалавек або 20 дывізіяў сканцэнтраваныя ў Усходняй Нямеччыне. Апрача гэтага, савецкія войскі ў колькасьці 160-180 тысяч чалавек або 8 дывізіяў прадаўжаюць аставацца ў Вугоршчыне.

Такім чынам, скарачэньне збройных сілаў, якое рэклямуецца савецкай прапагандай як «акт добрай волі», «прыклад дя іншых урадаў», «довад міралюбнасьці», «крок у кірунку спыненьня перагонкі збраеньняў», — не зьмяняюць сутнасьці агрэсыўнай палітыкі Савецкага Саюзу.

Дзеля нанясеньня ўдару заходняму сьвету, савецкая армія ўзброеная паводля апошняга слова мадэрнай тэхнікі, але ці можа такі ўдар прынесьці посьпех? На гэтае пытаньне можна адказаць славамі Сталіна, які гаварыў, што «ніводная армія ў сьвеце ня можа перамагчы бяз устойлівага заплечча», якое «забясьпечывае фронт жаўнерамі, настроямі й ідэямі» («Сочинения» І. Сталіна, т. 4, б. 323). Ён зьвярнуў увагу на тое, што

«. . . Найбольш дасьветчаныя генэралы й ахвіцэры могуць пацярпець паразу, калі жаўнеры лічуць навязаную ім вайну глыбака несправядлівай і калі яны выконваюць у сілу гэтага свае абавязкі на фроньце фармальна, бязь веры ў праўдзівасьць сваёй місіі, без адухаўленьня» (БСЭ, 2-ое выд., т. 8. б. 409—410).

Ня можа быць сумлеву ў тым, што заплечча, г. зн. народныя масы СССР узбройваюць жаўнераў настроямі й ідэямі, якія ня маюць нічога супольнага зь ідэямі, навязанымі арміі з боку партыйнага кіраўніцтва. Ня могуць жаўнеры лічыць і справядлівай тую вайну, якую імкнецца навязаць ім кіраўніцтва ЦК КПСС.

Запраўдныя настроі савецкай арміі рэдка прарываюцца навонкі дзякуючы найсражэйшай дысцыпліне. Яна змушае часамі людзей выконваць праступныя загады ЦК КПСС - навет страляць у народ, які паўстаў у імя свабоды, як гэта было ў Вугоршчыне. Але тым горш для камуністычнага кіраўніцтва, бо ў выніку гэтага яшчэ больш злосьці засярэджваецца ў душах жаўнераў супраць тых, хто робіць іх каральнікамі й катамі.

(«Аналіз бягучых падзеяў у СССР» Інстытуту для Вывучэньня СССР, № 83, 3. 3. 1959 г.).

**АНДРЭЙ МАКАЁНАК** 3)

# Каб людзі ня журыліся

**Камэдыя ў 4-х актах**

**Кавальчук:** Ты камуністы?

**Цярэшка:** Член партыі . . .

**Кавальчук:** Калі ў партыю ўступіў?

**Цярэшка:** Пад Сталінградам.

**Кавальчук:** Тады не шкадаваў свайго чуба?

**Цярэшка:** Дык то-ж вайна была і перад табой супраціўнік быў, вораг. І пазнаць яго ня цяжка было: і па мове, і па выхадках, дый навет шкура ў яго была свая, зялёная. Адным словам, мішэнь відаць была: бі ў лоб — і праўда твая. А тут, брат, чорт яго ведае, паспрабуй разабрацца: прыяцель Самасееў альбо няпрыяцель. Даўбанеш яго, а табе скажуць: свайго глушануў.

**Кавальчук:** Цяпер ясна. Бачу, што ты запраўды заблытаўся. Па рабоце яго трэба цаніць — прыяцель ён ці няпрыяцель.

**Цярэшка:** Калі па рабоце, дык гнаць яго трэба.

**Кавальчук:** Ну і ганіце ў шыю!

**Цярэшка:** Прагналі, і не аднаго ўжо. А з раёну другога прывозяць . . . Яшчэ лепшага.

**Кавальчук:** А вы й такога «лепшага» ня прымайце.

**Цярэшка** (ажно засьмяяўся): Ай-яй-яй-яй! . . Цімафей, Цімафей . . . Чыркаем мы адзін аднаго словамі, як тымі запалкамі, а іскры ня выходзіць, аганьку няма . . . Адсырэлі нашыя запалкі. (Махнуў рукой і пайшоў).

З хаты выйшла Аксіньня.

**Аксіньня:** А вас тут старшыня шукаў.

**Кавальчук:** Самасееў?

**Аксіньня:** Самасееў. Усё выпытваў: хто, адкуль, чаго. Гусь, кажа.

**Кавальчук:** Я — гусь? Цікава.

**Аксіньня:** Вы яму задайце перцу. Не дарма выпытваў — ці ня рэвізор, баіцца нечага. Ведае кот, чыё сала ўкраў.

**Кавальчук:** Думаеш, ён краў з калгасу?

**Аксіньня:** Ого! Каб яму столькі скульля, колькі ён дабра перацягаў. А колькі прапіў, дык і сам таго ня варты. Вунь ён сунецца.

Падыходзіць Самасееў.

**Самасееў:** Дзень добры!

**Кавальчук:** Дзень добры.

**Аксіньня:** Вось і пазнаёмцеся. А то выпытваюць адзін пра аднаго. Гэта — наш старшыня, а гэта — той самы гусь амнісьціраваны, пра якога ты пытаўся. (Самасеева ажно перасмыкнула ад такіх слоў, ён сярдзіта зыркнуў на Аксіньню). Ну, чаго ты набычыўся? Ты-ж сам так гаварыў. (Пайшла ў хату).

**Самасееў:** Ну й трапло ты, Аксіньня! (Падае руку Кавальчуку). Самасееў.

**Кавальчук:** Кавальчук.

**Самасееў:** Вось народ . . .

**Кавальчук:** Так-та-ак, народ . . . Як секане словам, то знак і астаецца. Тут мне адзін такую зарубку на памяць пакінуў — ня скора забудзеш . . .

**Самасееў:** Хто? Церах? Ён можа. Ну, я яму мазгі ўпраўлю. Я навучу, зь кім як гаварыць! Ніякай павагі ў іх няма. Не разьбярэ — каму можна, а каму не . . .

**Кавальчук:** О, не-е, народ ведае, каму й што сказаць.

**Самасееў** (разганяючы ад роту пах перагару): Дык вы, значыцца, з цэнтру?

**Кавальчук:** Зь Мінску.

**Самасееў:** Мімаходам ці спэцыяльна?

**Кавальчук:** Спэцыяльна.

**Самасееў:** Відаць, важная справа была?

**Кавальчук:** Вельмі важная.

**Самасееў:** Та-ак. Дык што-ж вы да мяне не зайшлі?

**Кавальчук:** Ня было пільнай патрэбы. Цікава было зь людзьмі пагутарыць.

З хаты выходзіць **Аксіньня** з ручніком і конаўкай вады.

**Аксіньня:** Цімафей Ягоравіч, можа, пасьнедалі-б. Ужо час. Бульба акалела.

**Самасееў:** Дык вы яшчэ ня сьнедалі?

**Кавальчук:** Ня прывык рана. (Аксіньні) Дзякуй, дзякуй, я сам. (Бярэ конаўку, адыходзіць і мые рукі).

**Самасееў** (кіўком пальца падзывае Аксіньню й амаль шэптам): Слухай, Аксіньня . . . (Вымае зь кішэні грошы). Можа-б, ты зьбегала ў краму. (Ківае ў бок Кавальчука). Паўлітэрку . . . Толькі ня баўся. Раз, два — і тут.

**Аксіньня** (голасна): Дык ён ня п'е, зусім ня п'е.

**Самасееў** (азіраючыся): Цс-с . . . Як зусім?

**Аксіньня:** Ні ў рот. Спрабавала паднесьці, дык куды там — аж паморшчыўся. І духу цярпець ня можа.

**Самасееў** ізноў махае рукой перад ротам.

І, кажа, зь дзіцячых год. Крэмень, скала, а не чалавек. Гарэлка — гэта-ж такая спакуса — сьвяты ня ўстоіць, а ён і ў той бок глядзець ня хоча.

**Кавальчук** (падыходзячы): Пра якіх сьвятых тут размова?

**Аксіньня:** Ды мы тут пра вас. Старшыня дае грошы, каб я па паўлітэрку схадзіла для вас, а я кажу — і ў рот не бярэ.

**Кавальчук:** А чаго не бяру — таго не бяру.

**Аксіньня** пайшла ў хату.

**Самасееў** (Кавальчуку, нявесела): Дык вы, значыцца, правяралі?

**Кавальчук:** Прыглядаўся.

**Самасееў:** Ну і што?

**Кавальчук:** Шчыра сказаць? Дрэнь вашы справы.

**Самасееў** (няўпэўнена): Відаць, нагаворы, паклёп . . .

**Кавальчук:** Трэба разабрацца.

**Самасееў:** Во-во-во . . Іменна разабрацца. Тут-жа такія людзі, што . . . За тры гады чатырох старшынь зьелі.

**Кавальчук:** Зьелі?

**Самасееў:** Зьелі. І гузікі выплюнулі.

**Кавальчук:** Чатырох?

**Самасееў:** Я — пяты .

**Кавальчук:** Ну і апэтыты!

**Самасееў:** З гэтага калгасу анэкдот пайшоў: старшыня тут адчувае сябе ўсё роўна што бульба.

**Кавальчук:** Бульба?

**Самасееў:** Калі за зіму не зьядуць, дык вясной пасадзяць.

**З радыёвай хвалі «Вызваленьне»**

# Хто на каго паклёпнічае?

На IV-ым зьезьдзе пісьменьнікаў БССР, у спрэчках над дакладам Пятруся Броўкі, выступіў кандыдат філялягічных навук Івашын. Ягонае выступленьне зьмешчанае ў сёлетнім 14-ым нумары газэты «Літаратура й Мастацтва». Там, між іншага, чытаем такія словы: «Разам з міжнароднай рэакцыяй, якая нападае на сацыялістычны рэалізм, беларускія нацыяналісты за межамі вядуць шалёныя атакі на беларускую літаратуру й асабліва на творчасьць Янкі Купалы й Якуба Коласа». Далей гаворыцца, што гэтыя так званыя «беларускія нацыяналістыя» быццам-бы «паклёпнічаюць» на Купалу й Коласа.

Напачатку удакладнім ужытыя Івашынам выразы.

Няма сумлеву, што, прытрымоўваючыся партыйнага жаргону пад «беларускімі нацыяналістымі за межамі» Івашын разумее беларускую палітычную эміграцыю ў вольным сьвеце. А ў дадзеным выпадку маюцца на ўвазе перш за ўсё беларускія эміграцыйныя навукоўцы, пісьменьнікі й літаратурныя крытыкі ды іхныя дасьледваньні й працы ў галіне беларускай літаратуры, выдадзеныя на эміграцыі. У гэтых выданьнях запраўды найбольш месца было прысьвечана — як гэта правільна заўважыў і Івашын — творчасьці Янкі Купалы й Якуба Коласа. Але скуль узяў Івашын, што ў гэтых эміграцыйных крытычных працах і выданьнях беларускай мастацкай літаратуры ёсьць «шалёныя атакі» і «паклёпніцтва» на Янку Купалу й Якуба Коласа?

Мы мелі магчымасьць пазнаёміцца з усімі гэтымі выданьнямі.

У Нямеччыне, у Мюнхэне, у беларускім эміграцыйным выдавецтве «Бацькаўшчына» выдадзены выбар паэзіі Янкі Купалы «Спадчына», куды ўвайшлі пераважна забароненыя ў БССР творы паэты. Асобнымі кніжкамі выйшлі: забароненая ў БССР Купалава п'еса «Тутэйшыя» й драма «Раскіданае гняздо». З творчасьці Якуба Коласа успомненым выдавецтвам перавыданы: паэмы «Новая Зямля» й «Сымон Музыка» ды аповесьць «У палескай глушы». Гэтыя выданьні суправаджаюцца грунтоўнымі, аб'ектыўнымі крытычнымі аналізамі, зробленымі эміграцыйнымі дасьледнікамі беларускай літаратуры. Апрача гэтага, Інстытутам для Вывучэньня СССР у Мюнхэне й Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку выдадзена шэраг манаграфіяў і апублікавана шмат артыкулаў у беларускай і заходняэўрапэйскіх мовах аб жыцьці й літаратурнай дзейнасьці Янкі Купалы й Якуба Коласа. Гэтыя працы вызначаюцца таксама глыбокім аб'ектыўным навуковым аналізам, ня маюць, зразумела, нічога супольнага з тэндэнцыйным савецкім мэтадам — гэтак званым «сацыялістычным рэалізмам» і «партыйнасьцяй у навуцы». У эміграцыйных выданьнях жыцьцё й літаратурная творчасьць Янкі Купалы й Якуба Коласа, ідэйная накіраванасьць іхных твораў, пададзены так, як гэта ёсьць у запраўднасьці. У гэтых дасьледваньнях, на аснове відавочных фактаў і неаспрэчных доказаў, даведзена, што Янка Купала й Якуб Колас і іхная літаратурная спадчына ў дарэвалюцыйны пэрыяд і ў пэршыя гады пасьля рэвалюцыі цьвёрда стаялі на пазыцыях беларускай **нацыянальнай** рэвалюцыі й былі яўнымі працiўнікамі бальшавіцкага ладу. Аб гэтым сьветчыць тое, што ў БССР яшчэ й сяньня забаронена каля 150 лепшых твораў Янкі Купалы і шмат твораў Якуба Коласа. Аб гэтым сьветчыць таксама тое, што ў 1930 годзе, будучы арыштаваным савецкім НКВД за гэтак званы нацыянал-дэмакратызм, Купала, каб пазбавіцца маральных і фізычных зьдзекаў, зрабіў спробу пакончыць жыцьцё самагубствам. Гэтыя факты шырока асьветленыя ў эміграцыйных выданьнях і савецкая прапаганда ня можа іх запярэчыць ніякімі «дыялектычнымі» трыкамі. Таму партыйнае кіраўніцтва бачыць толькі адну магчымасьць: ілгаць далей свайму грамадзтву, цьвердзячы, што эміграцыя паклёпнічае на Купалу й Коласа. У запраўднасьці-ж Купала й Колас, а таксама іхныя дарэвалюцыйныя літаратурныя творы, як і творы першых год савецкай улады, напісаныя, калі пісьменьнікі былі яшчэ духова вольнымі, — шануюцца, як вялікая сьвятасьць усёй беларускай эміграцыяй.

Дык хто-ж на каго паклёпнічае? Ня гэтак званыя «беларускія нацыяналістыя за межамі» паклёпнічаюць на Янку Купалу й Якуба Коласа, а партыйнае кіраўніцтва, якое забараніла найлепшыя творы вялікіх беларускіх пісьменьнікаў і хвальшыва прадстаўляе іхную літаратурную спадчыну.

**А. Залескі**

# Характэрныя асаблівасьці прыроды Беларусі

Паверхня Беларусі, гэтак як і паверхня ўсяе зямлі, не зьяўляецца сталай. Яна паступова зьмянялася пад уплывам дзьвёх катэгорыяў сілаў: нутраных і павярховых, што дзеілі ў працягу доўгае гісторыі зямлі. Да нутраных сілаў належаць: павольныя падыманьні й апусканьні паверхні зямлі, землятрусы й вульканізм. Да павярховых — вывятрэньне, дзейнасьць павярховае й падземнае вады, лядавікі, расьліны й жывёлы ды нарэшце чалавек. Дзейнасьць гэтых сілаў імкнецца з аднаго боку да будаваньня павярховых формаў, а з другога — да разбурэньня іх. Сучасныя формы паверхні зямлі, а ў гэтым і ейнае часткі Беларусі, зьяўляюцца вынікам змаганьня будуючых і разбураючых сілаў.

Пакідаючы агляд сілаў, што дзеілі на абшары ў пачатку гісторыі зямлі Беларусі, зьвернем увагу толькі на навейшыя зьмены, што былі фактарамі сучаснага геамарфалягічнага выгляду Беларусі, клімату, арганічнага сьвету ды быту Беларуса.

Гістарычнай геалёгіяй сьцьверджана, што перад сучасным пэрыядам быў лядавіковы пэрыяд, які адзначаўся далёка халаднейшым кліматам у параўнаньні з сучасным, значнымі атмасфэрычнымі ападамі ў форме сьнегу ды ператварэньнем яго ў фірнавы лёд, пад уплывам ціску сьнегу на ягоныя ніжэйшыя пласты й вады, што ўтваралася й працякала зь верхніх пластоў сьнегу пад дзеяньнем праменьняў сонца. Цэнтральным пляцдармам вяковага накапленьня сьнегу і ўтварэньня фірнавага лёду была ў Эўропе Скандынавія із сваімі найстарэйшымі крышталічнымі горамі. Пад уплывам ціску агромнае масы верхніх пластоў сьнегу й пластычнасьці лёду ў ягонай масе фірнавы лёд спаўзаў з гораў ды адрываў большыя й меншыя глыбы крышталічных скалаў і сунуў іх у сваіх лядавіковых языкох у паўдзённым кірунку. Некалькі разоў лядавіковыя языкі дапаўзалі на абшар Беларусі зь вялікаю масаю марэнавага матар'ялу, што адлажыўся тут пасьля пацяпленьня й растапленьня лёду, які ўтварыў сучасныя павярховыя формы ў выглядзе ўзвышшаў, узгоркаў, раўнінаў і паглыбленьняў, дзе ўтварыліся шматлікія лядавіковыя вазёры — рэзэрвуары рыбнага багацьця й красы сучасных маляўнічых краявідаў Беларусі на чале з найбольшым нашым возерам Нарач.

Лядавіковая вада, якая сплывала ў вялікай колькасьці ў ніжэйшыя месцы, гэтак як цяпер у мініятуры сплывае вада ў часе вясновых паводак, вынесла з марэнаў агромныя масы жвіру, пяску й глею ды адлажыла ўсё гэта ў ніжэйшых абшарах Беларусі, мадыфікуючы ейныя павярховыя формы. Тадышнія Палескае й Полацкае вазёры, што ператварыліся за доўгі час у сучасныя казачныя абшары балотаў, дапаўняюць мазаіку беларускіх павярховых формаў.

Абшар Беларусі зьяўляецца гідраграфічным вузлом нашых трох вялікіх рэкаў: Дняпра, Нёмана й Дзьвіны, што як вужы ўюцца паміж марэнавых узгоркаў ды нясуць свае воды ў кірунку паўдзённым да Чорнага мора і ў паўночна-заходнім — да Балтыцкага мора. Паміж Беларусяю й Маскоўшчынаю знаходзіцца выразная гідраграфічная мяжа. Ад заходніх і паўдзённых краінаў, што вяжуцца супольнымі рэкамі, Беларусь адрозьніваецца сваім вадападзельным палажэньнем. Дзякуючы нявысокім лядавіковым далінам сыстэмы двух мораў зьвязваюцца на Беларусі ў вадну рачную сетку чатырмя мясцовымі каналамі (Агінскі, Дняпроўска-Бускі, Бярэзінскі й Аўгустоўскі). Кірунак нашых галоўных рэк сьветчыць аб тым, што паверхня Беларусі мае агульны спад на захад і часткова на поўдзень. Такая асаблівасьць паверхні Беларусі вяжа яе з Захадам і Атлянтычным акіянам, ад якога залежыць асаблівасьць і беларускага клімату ў якасьці свае лагоднасьці па-

(Заканчэньне на 8-й бач.)

# У вабарону маіх суседзяў

(Заканчэньне з 6-й бач.)

Пераходжу да адмоўных якасьцяў Нэграў, на якія ў Вас кладзецца акцэнт. Ні ў якім разе не аспрэчваю тое, што паміж Нэграў ёсьць зладзеі і бандыты — гэта зусім натуральна пры іхным становішчы. Таксама ведаю, што гэтыя рысы найчасьцей выпукляюцца ў вялікіх гарадох — наагул, чым большы горад, тым найбольш брыдкія ягоныя грымасы і гэта асабліва датычыць 12-мільённага Нью Ёрку. Мімаволі прыгадваецца пашыраная нямецкая прыказка: „Not kennt kein Gebot“ — «Нэндза ня ведае законаў». Аднак мне невядома ні аднаго выпадку, каб хтосьці з маіх суседзяў кагосьці забіў, згвалціў, аграбаваў або зьняважыў. Затое ў травені 1955 г. праз газэты, радыё і тэлевізію падавалася да агульнага ведама, што адзін саўтрыврэрскі Беларус з былых «Д.П.» сьпярша цяжка параніў сваю жонку, швагерку і цёшчу з Амэрыканцаў, а потым, пасьля дзьвёхгадзіннае перастрэлкі з паліцыяй, якой урэшце давялося ўжыць газ, забіў сябе.

Злачыннасьць паміж Нэграмі вывучаецца цяпер у ЗША сумленнымі навукоўцамі не пад кутом нацыянальнае або расавае прыналежнасьці, а вылучна ў сувязі зь іхным падпарадкаваным статусам у амэрыканскім грамадзтве. А хіба ня сьветчыць аб гэтай падпарадкаванасьці тое, што ў верасьні 1958 г. у штаце Алабама Нэгр Джэймс Вільсон за крадзеж 1 (аднато) даляру 95 цэнтаў быў прысуджаны да сьмяртнае кары, якую губэрнатар, пад ціскам абурэньня ўсяе краіны, зьмяніў на... пажыцьцёвую турму. І ўсё-ж дарма палітычныя спадкаёмцы рабаўласьнікаў спрабуюць, часам навет перакручваючы Біблію, даводзіць, нібы адвечную злачыннасьць Нэграў. Непараўнальна большага даверу заслугоўвае арабскі навуковец Ібн Баттуці, знаны пад псэўдонімам — Падарожнік Ісляму — які ў 1352 г. наведаў імпэрыю Малі:

«Нэграм, — пісаў гэты мусульманскі Страбон, — уласьцівыя вельмі дадатныя рысы. Да несправядлівасьці яны ставяцца з большай агідай, чым які-небудзь іншы народ... У іх краіне пануе поўная бясьпечнасьць. І чужынцам і тубыльцам не пагражаюць невядомыя тут разбой, крадзеж і гвалт».

Што сучасныя Нэгры ў ЗША зусім не пазбаўленыя дадатных рысаў сваіх далёкіх продкаў, можна прывесьці шмат прыкладаў, але пакуль што хопіць наступнага.

У лістападзе 1949 г. наш суродзіч з новае эміграцыі займеў на вялікай цагельні працу, сумесную з двума Нэграмі. Яны разам бязь перадыху штурхалі важкія й гарачыя ваганэткі з напоўапаленай цэглай ад адных печаў да іншых. На пяты дзень працы суродзіч ад зьнясіленьня і сьпякоты на хвіліну згубіў прытомнасьць, паваліўся, і ягоныя ногі апынуліся паміж коламі ваганэткі. Ён не пасьпеў навет крыкнуць, але Нэгры адразу рыўком спынілі ваганэтку і таму толькі яму не адрэзала ногі. Аб вылучным высілку, які патрабаваў гэты рывок, сьветчыць тое, што старэйшы з Нэграў на працягу колькі хвілінаў расьціраў мускулы на сваіх руках. Цікавае супадзеньне, але гэтага старога звалі — дзядзька Том. А суродзіча, які да скону жыцьця не забудзе ягонага імя — Юрка Віцьбіч.

Дарагі Сябру! Я ня пэўны таго, што гэты мой ліст Вам або некаторым нашым суродзічам спадабаецца, але-ж — «Плятон — сябра, а ісьціна яшчэ большы сябра». На вялікі жаль: папершае, магчыма з прычыны свайго кароткага побыту ў ЗША Вы спрабуеце абяліць тое адмоўнае, зь якім самыя Амэрыканцы стала і не бяз посьпехаў змагаюцца. Калі, напрыклад, у жнівені 1955 г. загінуў ад суду Лінча 14-гадовы Нэгр Эмет Цiл, дык перад ягонай труной прайшлі больш за 100 тыс. чыкагцаў — і чорных, і белых, і жоўтых і чырвоных. Паказальна таксама, што сяньня самае імя «гэроя» сумнае славы Літл Рока губэрнатара Орвала Фобуса зрабілася лаянкай паміж белымі Амэрыканцамі. Яно сталася сынонімам бяспрынцыповага кар'ерыстага, у якога собскія інтарэсы пераважаюць над інтарэсамі народу і дзяржавы.

Падругое, Вам не давялося заўважыць, што гэтая адмоўная якасьць, якое самыя белыя Амэрыканы ў сваёй пераважнай бальшыні пазбаўляюцца, на глыбокі жаль, ахапіла там-сям частку нашае моладзі. Летась мне давялося пачуць ад 16-гадовае дзяўчыны, якая нарадзілася ў Стаўпеччыне, што яна зьмяніла пляжу, бо на ёй купаліся Нэгрыцянкі. Ейны 8-гадовы брат паляваў з каменьнем у руках на сваіх аднагодкаў з «Афрыканскага Дому», мянуючы іх пры гэтым на ангельскай мове «чорнымі сабакамі». Я ў стане прывесьці яшчэ ладне падобных прыкладаў. І наш сьвяты абавязак растлумачыць нашай будучыні — моладзі, што ЗША маюць непараўнальна болей добрага і годнага для ўспрыйманьня, чым тое благое (і на сонцы ёсьць плямы), якое да таго-сяго з нашае зьмены там-сям выпадкова прышчапілася.

Патрэйцяе, нам Беларусам — народу паняволенаму, ні ў якім разе ня выпадае апраўдываць паняволеньне іншых народаў. Нашае нацыянальна-вызвольнае змаганьне і расавая дыскрымінацыя паміж сабой ня супадаюць. Незалежна ад колеру скуры — ці белыя, ці чорныя, ці жоўтыя, ці чырвоныя — мы ўсе адзінага Бога дзеці. Адзін за адным народы Афрыкі ськідаюць зь сябе каляніяльныя ланцугі, становячыся дзяржаўнымі. Лепш пашукаем паміж імі сваіх сяброў, чым варожа да іх паставімся.

І апошняе. Ці наўрад Вашую памылку падзяляе беларуская эміграцыя ў ЗША. Вельмі паказальны ў гэтай галіне агульны фатаздымак, зьмешчаны на 66-ай бачыне выдадзенае летась на ангельскай мове брашуры «Беларускі Дзень Вызваленьня». На ім мы бачым, што побач з Архіяпіскапам Васілём сядзіць Япіскап Фрэнціс Уілкі — Нэгр па нацыянальнасьці, які зьявіўся, каб разам зь Беларусамі ўшанаваць іхнае Вялікае Нацыянальнае Сьвята. І ставячыся із шчырай пашанай да Япіскапа Фрэнціса Уілкі, мы тым самым выказваем сымпатыю да ягонае паствы, або, як Вы няўдала выказаліся — «шэрае масы».

Ветліва прашу прыняць мае найлепшыя зычэньні

З пашанай да Вас
Ваш **Юрка Віцьбіч**

**Кавальчук** (сьмяецца): Забаўна. Зіма скончылася, ужо вясна на дварэ, а вас-жа ня зьелі?
**Самасееў:** Ну вот...
**Кавальчук** (празь сьмех): Думаеце — пасадзяць?
**Самасееў:** Вам весела, а ў мяне сям'я.

З хаты выйшла **Аксіньня.**

**Кавальчук:** А тых чатырох старшынь, што да вас працавалі, таксама пасадзілі?
**Самасееў:** Аднаго пасадзілі, а трое ледзь вышкрабліся.
**Аксіньня:** А шкада.

**Самасееў** зьдзівіўся.

Ну як-жа? Яны калгас абгрызьлі, як ліпку, а самі хвост дудкай і — памінай чым звалі.

**Самасееў:** Ох і злая-ж ты, баба!
**Аксіньня:** А як ты тут добрай з такім, як ты, будзеш? Ай, што з вамі гаварыць!.. (Кавальчуку). Дык вы пойдзеце сьнедаць, ці вас дубцом падганяць?
**Кавальчук:** Іду, іду.
**Самасееў:** Ніякай у цябе павагі да чалавека, Аксіньня. Ніякай далікатнасьці. У людзях не разьбіраешся. Сказана — цемната...
**Аксіньня:** Гэта ў вас хай паджылкі трасуцца — для вас ён начальнік, а мне проста госьць, свой чалавек.

**Аксіньня** й **Кавальчук** пайшлі ў хату.

**Самасееў** (правёўшы іх вачыма): Цьвёрды арэшак. Не адразу раскусіш.

Да Самасеева падыходзіць пагарадзкому апрануты малады чалавек зь невялічкім чамаданчыкам.

**Васіль:** Выбачайце, вы ня скажыце, дзе я магу ўбачыць старшыню калгасу?
**Самасееў:** Я — старшыня калгасу.
**Васіль** (зьдзівіўся): Вы, вось гэтага калгасу?
**Самасееў:** Калгасу «Вольная праца».
**Васіль:** Дзіўна. Вельмі дзіўна. Скажыце: вы стары ці ўжо новы старшыня?
**Самасееў:** Стары. А што такое?
**Васіль:** Вы Самасееў?
**Самасееў:** Самасееў. А ў чым справа?
**Васіль:** Справа ў тым, што... я спадзяваўся, што вас тут ужо няма.
**Самасееў:** Як няма?
**Васіль** (нібы сам сабе): Нічога не разумею...
**Самасееў:** Скажыце, а вы адкуль будзеце?
**Васіль:** Я зь Менску. А Кавальчук тут яшчэ?
**Самасееў:** Тут.
**Васіль:** Вы ня скажыце, дзе я магу ўбачыць яго?
**Самасееў:** Ён тут, у гэтым доме.
**Васіль:** Дзякую. (Накіраваўся ў Аксіньніну хату).

Самасееў стаіць, як аглушаны. Ён страсануў галавой, нібы праганяючы кашмарны сон. Хмель выскачыў з галавы. Падыходзіць участкавы міліцыянэр **Дабрыла.**

**Дабрыла** (басам): Таварыш Самасееў!
**Самасееў** (азірнуўся й зусім зьбянтэжыўся): Я... я слухаю.
**Дабрыла:** Цяпер ты ад мяне ня выкруцішся.
**Самасееў:** Я ўжо й ня думаю выкручвацца.
**Дабрыла:** Форменнае душагубства, і па тваёй віне.
**Самасееў:** Яшчэ чаго не хапала! Якое душагубства?
**Дабрыла:** На мосьціку цераз Балачанку.
**Самасееў:** А што такое там на мосьціку?
**Дабрыла:** Не на мосьціку, а пад мосьцікам ужо. Топіцца раённае начальства — райплян Гудзееў. Зьбірай людзей! А то засмокча балота — адказваць будзеш. Я ледзь выбраўся з «Масквіча», а ён там сядзіць.
**Самасееў** (крычыць): А чаго вы ехалі сюдою? Ня бачыш: вясна на дварэ! У аб'езд трэба было!
**Дабрыла:** Спакойна, грамадзянін Самасееў. Езьдзіць у аб'езд не ў ягоным характары. Ты ня ведаеш хіба?
**Самасееў:** І бадай кажны раз яго сустракаем вось так, із звонам.
**Дабрыла:** Давай, давай, людзей зьбірай!

Самасееў бразгае па рэйцы, якая вісіць каля Раманавай хаты.

**Самасееў** (крычыць, склікае людзей): Эй, Сьцяпан! Іван, Цярэшка! Раман! Сюды Хутчэй! Давай, давай сюды!

З хаты выходзіць **Раман**. Зьбягаюцца калгасьнікі.

**Галасы:** Што такое? Пажар? Што здарылася?
**Самасееў:** Бярыце сякеры, лапаты й хутчэй да мосьціку цераз Балачанку.
**Галасы:** Якога мосьціку? Там-жа мосьціку няма.
**Самасееў:** Якраз туды, дзе няма мосьціку.
**Галасы:** А што такое? Гарыць? Нічога не гарыць.
**Дабрыла:** Спакойна! Спакойна! (Сьвірчыць у сьвісток).
**Самасееў:** Машына топіцца. Легкавая. Райплян.

На гэты шум з хаты выскачылі **Аксіньня, Кавальчук** і **Васіль.**

**Дабрыла:** Грамадзяне, грамадзяне! Не затрымлівайцеся!!
**Самасееў:** Хвёдар, захапі вяроўку! Грачоў! Скажы, каб хто-небудзь пару валоў запрог!
**Грачоў:** Навошта?
**Самасееў:** Машыну выцягваць. Хутчэй! Хутчэй!

Сабраўшы цэлую брыгаду мужчын, Самасееў рушыў ратаваць машыну. Сьледам за ім пайшлі калгасьнікі — хто зь сякерай, хто з лапатай, а хто зь вяроўкай. Паход замыкае міліцыянэр.

**Аксіньня:** Пайшлі ў хату. Бяз нас выцягнуць.
**Кавальчук** (сыну): Значыць, зь інстытутам справа к канцу йдзе? Толькі дзяржаўныя экзамены?
**Васіль:** І дыплёмная работа. «Вузлавы мэтад рамонту трактараў».
**Кавальчук:** А потым?
**Васіль:** А потым сюды (Шырокі жэст), сьціраць грань паміж горадам і вёскай.
**Кавальчук:** Справа сур'ёзная.
**Аксіньня:** Пайшлі, пайшлі ў хату. Сьнеданьне на стале астыне.

**Кавальчук** і **Васіль** заходзяць у хату.

**Раман:** Аксіньня!
**Аксіньня** (затрымаўшыся): Што, Рома?
**Раман:** А гэты малады — хто гэта?
**Аксіньня:** Сын яго.
**Раман:** Ці ня думае ён у цябе назаўсёды пасяліцца, што й сына вытрабаваў?

(Далей будзе)

# Характэрныя асаблівасьці прыроды Беларусі

(Заканчэньне з 7-май бач.)

між больш акіянічным кліматам заходніх краёў і кантынэнтальным кліматам Маскоўшчыны.

Мазаічныя зьмены павярховых формаў і кліматычныя элемэнты спрыялі ўтварэньню стракатасьці нашае глебы зь перавагаю ейнае лёгкасьці наўсуперак цяжкім і халодным глебам-падзолам на вялікіх прасторах плоскіх узвышшаў Маскоўшчыны. Ад кліматычных і глебавых асаблівасьцяў залежыць буйнасьць і багацьце расьліннага сьвету Беларусі. Мяшаныя лясы, лугі ды травяністыя балоты твораць зь Беларусі зусім асобную расьлінную краіну. Лясная стыхія ў форме вялікіх пушчаў пануе на абшары Беларусі, а расьліннасьць Палескае нізіны творыць сабою асобны краявід на цэлую Эўропу. З сумам трэба прызнаць, што чужацкае панаваньне на Беларусі адзначаецца рабаўніцтвам ды нішчэньнем нашых слаўных пушчаў, а разам з гэтым нішчэньнем і разнастайнага й багатага зьвярынага сьвету. Каму толькі з каляніяльных вяльможаў ня прыйшлося палявацьу нашых пушчах — прыродных зьвярынцах?

Характэрныя асаблівасьці беларускае прыроды, што выяўляюцца ў частай зьмене разнастайных краявідаў, у лагодным і здаровым клімаце, у шырокім разьвіцьці вадзяных шляхоў, у багацьці й буйнасьці жывое прыроды — утварылі глыбокую спадчынную адзнаку ў псыхіцы й быце нашага народу — адвечнага праўнага гаспадара Беларусі. Разнастайныя краявіды змушалі яго прытарноўвацца да адпаведных умоваў, што спрыяла яго багатай народнай творчасьці — крыніцы натхненьня для нашых паэтаў, пісьменьнікаў, музыкаў. Беларускі фальклёр займае адно зь першых месцаў сярод народаў і вабіў шмат навукоўцаў у часе навет чорнае пары маскоўскага паняволеньня. Цудоўныя краявіды Беларусі налажылі сваю пячаць і на формы селішчаў нашага народу. Доўгія вуліцавыя вёскі ўздоўж рэчак і ручаёў вададзельнае краіны, або невялікія засьценкі ў некалькі двароў на марэнавых узгорках ці параськіданыя на абтоках палескія вёскі, што адмяжаваліся балотамі ад ворнае зямлі, змушалі Беларуса назіраць прыродныя асаблівасьці, каб прыстасаваць у вадпаведны спосаб сваю гаспадарку. Колькі змарнавана й затармажана творчае працы «старэйшым братам», вырываючы ад беларускага народу ягоныя прыродныя дары ды ягоную родную мову?

Геаграфічнае палажэньне Беларусі паміж Захадам і Ўсходам Эўропы ў свае часы спрыяла дзяржаўнаму разьвіцьцю, але ў пазьнейшым часе палітычныя прычыны не далі беларускаму народу поўнасьцяй выкарыстаць свае прыродныя асаблівасьці. На абшары Беларусі адбывалася змаганьне з адвечнымі ейнымі калянізатарамі, а нарэшце змаганьне між Усходам і Захадам, руйнуючы нашую гаспадарку й дэмаралізуючы беларускае грамадзкае й нацыянальнае жыцьцё. Паміж калянізатарскай элітай і беларускім народам утварылася агромная пропасьць. Побач з палацамі й маёнткамі чужакоў, якія гаспадарылі на Беларусі з пазыцыі вызыску, туліліся ўбогія хаткі Беларуса. Дзеля замаскаваньня вызыску была выдумана легенда, што Беларусь зьяўляецца бедным краем і ня можа йснаваць без «старэйшага брата» — калянізатара. Гэты міт шырока прапагуецца й цяпер у «першай стадыі» камунізму, каб, трымаючы беларускі народ паўгалодным, замаскаваць вызыск і чырвоны прыгнёт. Квітнеючае самастойнае йснаваньне Летувы, Латвіі й Эстоніі, далёка меншых за Беларусь краёў, даказала абсурднасьць такое выдумкі, бо цяперашняе іхнае становішча пры паўторнай «дапамозе» «старэйшага брата» зноў сталася трагічным і ўбогім. Голад, тэрор, ілжывасьць, як мэтад чынгісханаўшчыны, зьяўляюцца сягоньня пад шыльдаю Маркса галоўнымі атрыбутамі падбою народаў. Гэтым тлумачыцца нізкі матар'яльны ўзровень падбітых народаў ды іхнае спынянае духовае разьвіцьцё наўсуперак прагрэсу ў незалежных народаў Захаду.

Канчаючы гэтыя папулярныя ведамкі аб Беларусі ў дзень абходу Вялікага 25 Сакавіка 1918 г., пры сучасным аджываньні каляніялізму ў Азіі й Афрыцы, трэба верыць, што дасюлешні імпэрыялізм і каляніялізм, як анармальнае зьявішча дваццатага стагодзьдзя ў цэнтры культурнай Эўропы, мусіць зьнікнуць. Недалёкі той час, калі паняволеныя народы Эўропы, а разам зь імі й Беларусь, здабудуць незалежнасьць і волю для свае творчае працы. Беларусам на Бацькаўшчыне й беларускай палітычнай эміграцыі ўва ўсім сьвеце, што на чужыне стварыла свае цэрквы, школы й культурна-грамадзкія ўстановы, трэба памятаць аб асаблівасьцях нашага Краю з цудоўнымі й багатымі аб'ектамі матар'яльнага дабрабыту й крыніцамі духовага нацыянальнага прагрэсу, які поўнасьцяй можа быць толькі ў незалежнай і вольнай Беларусі.

**А. Негнявіцкі**

---

**ДА ЎВАГІ НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ і ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА!**

Выдавецтва «Бацькаўшчыны» зьніжае на 25% цану ўсіх сваіх выданьняў за выняткам «Спадчыны» Я. Купалы ў цьвёрдай вокладцы, «Беларускіх казак» у цьвёрдай і мяккай вокладцы й «Выбраных твораў» Р. Крушыны. У выніку цана ўсіх выданьняў наступная:

**Янка Купала**
**СПАДЧЫНА**
— Выбар паэзіі зь вялікім крытычным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 564. **Цана 5.25, 9, або 11 амэр.** даляраў (залежна ад вокладкі й паперы).

**Янка Купала**
**ТУТЭЙШЫЯ**
— П'еса ў чатырох дзеях з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 83. **Цана 1 амэр. даляр.**

**Янка Купала**
**РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО**
**— Драма ў пяцёх актах з крытычным артыкулам Р. Склюта.** Балонаў 58+XV. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Якуб Колас**
**НОВАЯ ЗЯМЛЯ**
— Паэма зь вялікім крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 246+XXXII. **Цана 2.25 амэр. дал.**

**Якуб Колас**
**СЫМОН МУЗЫКА**
— Паэма з крытычным артыкулам **Р. Склюта і А. Бабарэкі.** Балонаў 238. **Цана 2.25 амэр. даляраў.**

**Якуб Колас**
**У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ**
— Повесьць. **Цана 1.50 амэр. дал.**

**Андрэй Мрый.**
**ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ**
— Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта.** Балонаў 88. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Лукаш Калюга**
**НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ**
— Аповесьць з крытычным артыкулам **Р. Склюта. Цана 1.10 амэр. даляраў.**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)**
**ТВОРЫ**
— Апавяданьні. Балонаў 112. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Юрка Віцьбіч**
**ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЕ ГАРЫ НЁМАН**
— Мастацкія нарысы. **Цана 0.75 амэр. даляра.**

**Рыгор Крушына**
**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**
— Вершы. **Цана 2 амэр. даляры.**

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ**
— Альманах твораў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў з уступным артыкулам **Ст. Станкевіча.** Балонаў 238. **Цана 2. 25 амэр. даляраў.**

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ**
Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. Балонаў 215. **Цана 3 або 4 даляры** (залежна ад вокладкі).

**Заўвага:** У эўрапэйскіх краінах, паймена ў Англіі, Францыі, Бэльгіі, Нямеччыне, Італіі, Гішпаніі, а таксама ў Аргэнтыне, Бразыліі й Аўстраліі выданьні каштуюць на 20% таней вышэй пададзенае расцэнкі

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

---

*Фэльетон*

## *Мікітаў жарт палохае суседзяў*

— Ты знаеш, браток, бяда, — засопшыся, уварваўшыся ў мой пакой, нявыразна заляпятаў мой сусед.

— Што з табою, — перабіў я яго, — будынак рухнуў?

Мушу паясьніць вам, дарагія чытачы, што мой сусед — будаўляны інжынер і ў даны мамэнт займаецца пабудовай пяціпавярховага зялезабэтоннага будынку. Аднойчы ён мне прызнаўся, што калі-б ня дай Бог памыліўся ў вылічэньнях (не бяручы на ўвагу іншых эвэнтуальных і праўдападобных прычынаў) і будынак рухнуў, дык... вяроўка прыгатаваная ляжыць... і бывай жыцьцё! Вось-жа пабачыўшы яго ў такім стане я й падумаў, што ня йнакш, як будынак адказаўся стаяць вэртыкальна.

— Ды дзе, — кажа ён, — горш яшчэ! Ты чуў, што Саветы пусьцілі «спутніка» на сонца?

— Зразумелая рэч, што чуў. Што ты...

— Вось табе й што ты, а гэты самы «спутнік» цяпер будзе кіраваць сонцам і, калі захоча, дык загадае сонцу, каб адвярнулася сьпіной да буржуазнага сьвету, вось табе й крышка.

— А хто гэта табе такія басьні...

— Дык ні якія ні басьні, а вось Кракадзіл...

— Кракадзіл?! — узьдзіўлена ўскрыкнуў я. — Вось ліханька, значыць не дарма пайшлі ягоныя начныя практыкі астранаміі. Ці пэўны ты толькі, што ён у добры тэлескоп глянуў?

— Ты вось лепш на прачытай, а пасьля пабачым, як пажартуеш, — сунуўшы пад самы нос нейкі часапіс, злосна адказаў мой сусед,

— Дык што, ён нат' і надрукаваць ужо ўсьпеў, — не разгортваючы часапісу, запытаў я. — Вось дык Кракадзіл...

— Сам ты Кракадзіл! Гэта-ж не Кракадзіл, а вось у гэтым «Кракадзіле» напісана, ды паводля самага наймудрэйшага нашых дзён Мікіты. Ды зрэштай прачытай вось, дык магчыма менш разумным станеш.

Каб было ясьней — мушу сказаць пад сакрэтам, што мы (я й мой сусед) называем нашага супольнага суседа Кракадзілам і, што ён, г. зн. наш супольны сусед, займаецца практычнай астраноміяй. Гэта ягоны пабочны фах.

Гляджу, а на часапісе вялікімі літарамі напісана «КРОКОДИЛ» і меншымі: «№ 4 10 февраля 1959». Агледзеўшы вокладку, глянуў на суседа з запытаньнем, дзе і што чытаць. — На чацьвертай і пятай бачыне, — адказаў ён мне.

Пачаў я ад загалоўка й то ня ўслух, бо мая гордасьць не пазволіць скампрамітавацца перад маім суседам-інжынерам, паказаць яму, што ня ўмею бегла чытаць на мове «Крокодила», выбачайце, хацеў сказаць на мове, на якой «Крокодил» напісан. Мушу аднак зазначыць, што ўсё, што там напісана было, я поўнасьцяй зразумеў. Хадзіла там аб XXI зьезд самае мудрае й непамыльнае КПСС, аб ажыўленьні ў залі, аб сьмеху, аб воплесках, аб тым, як дзядзя Хо (так, паводля «Крокодила», завуць Го Чы Міна) цалаваўся з пасланцом камуністых Індыі Аджой Гхошам і ўрэшце — як дзядзя Хо із спацелым, пасьля шасьцігадзіннага дакладу, Мікітам пайшлі к дарагім заграмічным гасьцям. Што дарагія, то думаю, што згодзіцеся й вы зь ім, дарагія чытачы, бо колькі-ж яны, гэтыя самыя загранічныя госьці, каштавалі Савецкаму Саюзу, каб прытранспартаваць іх у Маскву і ўтрымаць іх там. Хоць праўда, утрыманьне іхняе й заграніцаю ня мала каштуе Савецкаму Саюзу. Але што для справы ня робіцца... Ды ці ўжо так важна, што калгасьнікі прыгаладаюць крыху, ды абодраныя пахадзяць. Ня прывыкаць ім да гэтага, пасьля сарака год можна й да горшага прывыкнуць...

Вось-жа чытаючы так, я нарэшце напароўся на тое месца, дзе сусед мой перапалохаўся. «...Трэба было наглядаць, — піша гэтая самая гадзіна, прабачце, «Крокодил», — як усьміхнуліся дэлегаты, калі Н. С. Хрушчоў (справа йдзе аб Мікіту), адарваўшыся ад дакладу, жартаўліва зазначыў: — Вось бачыце, як толькі мы загаварылі аб цяжкой індустрыі, ярка засьвяціла сонца. Гэта сымбалічна: і прырода як-бы вітае нашыя посьпехі».

«А сонца, — піша далей «Крокодил», — прыняўшы нядаўна ў сваю арбіту нашу чырвоназорачную плянэту, ня толькі заглянула ў вокны крэмлёўскага замку, але запаліла пад ягонымі высокімі сьценамі тысячы блескаў...»

Што-ж, думаю сам сабе, нат і сонцу, магчыма, упяршыню прышлося заглянуць за муры Крэмля. Неяк у гэты мамэнт халаднавата мне стала й я мімаволі глянуў на сонца. І ўзапраўды яно мне здалося нейкае зьблядsuccessнелае, скупое й сумнае. Ня знаю толькі дакладна прычыны: ці таму, што заглянула за крэмлёўскія муры, ці пачуўшы жарт Мікіты, а можа і ўзапраўды пад пагрозай спутніка?

— Ну што-ж, — кажу я, каб супакоіць свайго суседа, — ім цяпер трэба больш сонца з двух прычынаў: папершае, што сталінскае ўжо шэсьць год як патухла, а падругое — гэта дае больш калёрыяў, што магчыма можа пакрыць нястачу прыгаладаўшым кальгасьнікам...

Сусед мой падумаў, што я жартую, махнуў рукой і выйшаў з пакою.

Я прадаўжаў чытаць далей. І вось трапляю на жарт, які напэўна і вас расьсьмешыць, дарагія чытачы. «... Таму, што ў будучым мы залічым толькі адну законадаўчую дыспрапорцыю: павышэньне прамысловага ўзроўня салодкага і ўпад вытворчасьці горкага».

На маю думку — Мікіта здорава дзёрнуў на пярэдадні зьезду і напэўна ладне адхварэў. Праўдападобна нат' і ў латыскую сталіцу інкогніто зьезьдзіў. Так што, калі вам, дарагія чытачы, прыходзілася калі-небудзь быць у падобным палажэньні, дык вы яго поўнасьцю зразумееце.

Але, як піша далей «Крокодил»: «Не да жартаў рыбцы, калі кручком пад жэбры бяруць». Разумны, запраўды разумны жарт. Колькі савецкіх грамадзян гэты жарт хапіў пад жэбры. Трэба прызнаць, што ў Крэмлі сядзяць ня толькі добрыя жартаўнікі тыпу Мікіты, але й ня горшыя рыбаловы, што спрытна пад жэбры могуць любога хапіць.

Дык вось, як піша «Крокодил», што людзі кажуць: «Жарт — хвілінка, а зацягвае гадзіну.» Сямігодкі на цэлых два гады больш за пакойніцу пяцігодку. Трэба спадзявацца, што за сем год выканаюць тое, што плянавалася на пяць. А заходняму сьвету варта было-б сур'ёзна задумацца над тым, што рабіць, калі сонца, прыняўшы ў сваю арбіту чырвоназорачную плянэту, стане толькі за муры Крэмля заглядаць.

**Сусед № 2**

---

**ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ НА ЗБОРНІК ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА, ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ ГЭТА БЕЗАДКЛАДНА!**
**ЦАНА АДНАГО ЭГЗЭМПЛЯРА ЗБОРНІКА — 3 ам. даляры.**

---

## 10 год таму „Бацькаўшчына“ пісала:

**...Акт 25 Сакавіка 1918 г. распачынае ў беларускім нацыянальна-вызвольным руху новы гістарычны пэрыяд — пэрыяд незалежніцкі. Ад гэтага часу беларуская палітычная думка разьвіваецца ўжо ў вадным, выразна спрэцызаваным незалежніцкім кірунку, стаўляючы сваёй канчальнай мэтай, сваім найвялікшым ідэалам — вольнасьць і дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны.**

**Акт 25 Сакавіка ня быў прыпадковым зьявішчам, абумоўленым спрыяльнымі абставінамі часу, ня быў справаю толькі патрыятычнае інтэлігенцыі ці ейнае найбольш энтузіястычнае групы, але ідэі гэтага вялікага акту былі арганічнаю часткаю агульнанародных імкненьняў, агульнанароднае волі.**

№ 8(52), 25 сакавіка 1949 г.

---

*Зь беларускага жыцьця*

**У БЕЛАРУСКАЙ КАЛЁНІІ ПАРЫЖУ**

22-га лютага сёлета ў памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжы адбылася чарговая сындыкальная зборка беларускай сэкцыі, на якой абмяркоўвалася справа падрыхтоўкі ўрачыстага адзначэньня 41-ай гадавіны Сакавіковага Акту.

Пасьля абмеркаваньня практычных пытаньняў адносна наладжаньня сьвяткаваньня, сп. М. Наўмовіч, старшыня беларускай сэкцыі С. Ф. Т. С. зачытаў ліст надасланы з Рыму айцом Львом Гарошкам. У гэтым лісьце а. Леў, былы Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі ў Францыі, яшчэ раз выказаў сваю гарачую падзяку за так шчырыя ды цёплыя праводзіны, што ў свой час (21-га сьнежаня 1958 г.) былі наладжаны яму ўсімі Беларусамі Парыжу й ваколіцаў. Прыемна адзначыць, што ў той разьвітальны дзень, пасьля апошняй Багаслужбы, адпраўленай айцом Львом у суслужэньні з а. Кастусём Маскалікам, новым Рэктарам Беларускае Місіі ў Францыі, ды мілае бяседы з пачастункам, айцец Леў атрымаў ад сваіх вернікаў некалькі сьціплых падарункаў на знак удзячнасьці ды пашаны да ягонае шматгадовае працы ў Францыі як на рэлігійнай, так і на грамадзкай беларускай ніве.

Па адчытаньні гэтага лісту, усе прысутныя на зборцы выказалі надзею, што ня гледзячы на зьмену месца свайго жыхарства (а. Гарошка выехаў на адзін год у Рым, а пасьля на стала аселіцца ў Лёндане), айцец Леў будзе й надалей трымаць цесную сувязь зь Беларусамі ў Францыі.

**Прысутны**

---

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

---

**УВАГА!**

**Праграмы Беларускае рэдакцыі радыя «Вызваленьне» перадаюцца на Бацькаўшчыну ў наступных гадзінах менскага часу:**
**Ад 1-ае да 3-яе гадзіны ночы — на хвалях 31 і 41 мэтраў**
**ад 11-ае да 13-ае гадзіны — на хвалях 17 і 19 мэтраў**
**і ад 22-ое да 23-яе гадзіны — на хвалях 25 і 31 мэтраў**

**Беларуская Рэдакцыя Р. В.**

✶

**Праграмы Беларускае рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя перадаюцца ад гадз. 18.30 да 18.45 сярэдняэўрапэйскага часу (20.30 — 20.45 — менскага часу) і ад гадз. 20.45 да 21.00 (22.45 — 23.00) на хвалях 32,05 м. (9363 kc/s) і 42,22 м. (7105 kc/s).**

**Беларуская Рэдакцыя Г. Н. Р.**

---

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**